PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 9 (1920) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 28 ЛЮТАГА 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

## ЦЯЖКАЯ, ПРЫГОЖАЯ ПРАФЕСІЯ

*"Будаўніцтва, гэта цяжкі занятак. Вучыць ён нас эластычна думаць і цвёрда працаваць. Будаўнік, гэта прыгожая прафесія для амбітных людзей".*
ЯН МІКАЛУШКА



**РАЗМОВА З ЯНАМ МІКАЛУШКАМ, ДЫРЭКТАРАМ ПРАДПРЫЕМСТВА "UNIBUD" З БЕЛЬСКА-ПАДЛЯШСКАГА**

*- Я многа чуў пра Вашае прадпрыемства, але ніколі тут не быў. Калі я ўвайшоў на пляц і пабачыў, колькі ў Вас розных машын - адных грузавікоў мусіць будзе каля 20, - поўнасцю змяніў свае ранейшыя ўяўленні. Мушу сказаць, што велічыня прадпрыемства ўразіла мяне.*

- О, вы бачылі толькі частку таго, што ў нас ёсць. За будынкам бюро стаяць склады, гаражы - там Вы можаце паглядзець яшчэ больш машын ды шмат самых разнавідных будаўнічых матэрыялаў.

Так, наша фірма сапраўды немалая. Гэта, скажу Вам, наша і моц, і слабасць. Козыр, бо маем вялікі патэнцыял, вялікія магчымасці, а слабасць - бо няма сёння ў Польшчы добрай кан'юнктуры для будаўнікоў. Наш патэнцыял не выкарыстоўваецца поўнасцю. Мы, хаця з'яўляемся прадукцыйным прадпрыемствам, вымушаны займацца таксама гандлем - перш-наперш будаўнічымі матэрыяламі, каб неяк жыць.

*- Якія, па-вашаму, прычыны дрэннай кан'юнктуры ў будаўніцтве?*

- Найважнейшае тое, што відаць - крызіс, збядненне грамадства. Мала хто цяпер мае грошы на новую пабудову. Апрача гэтага, у нашай спецыяльнасці вялікая канкурэнцыя. Ёсць многа людзей, якія, напрыклад, зарабілі грошы на Захадзе і потым, вярнуўшыся, паадчынялі свае ўласныя фірмы. Яны пераважна невялікія і маюць вузкую спецыялізацыю, але іх многа і на меншых пабудовах смела могуць выйграць з вялікім прадпрыемствам.

*- Калі такая цяжкая сітуацыя, ці не збіраецеся Вы звальняць частку рабочых?*

- Я не магу гэтага зрабіць. Нашае прадпрыемства з'яўляецца суполкай працаўнікоў, гэта значыць, што яго ўласнікам ёсць сам калектыў. Працаўнікі - як кожны ўласнік - маюць свае патрабаванні. На першым месцы, зразумела, хочуць мець працу і прыстойныя грошы за яе. Абавязак кіраўніцтва - забяспечыць гэтыя патрабаванні. Звольніць частку калектыву ў несპрыяльны час можа толькі "Ford" або "General Motors", але не мы.

Затое я ахвотна пазбыўся б часткі маёмасці. Напрыклад, грузавікі, пра якія Вы ўспомнілі - нам іх аж столькі не трэба. Але на сённяшні дзень машыны давялося б аддаваць за паўдарма. Іншая справа, купіць но-

☞ *Працяг на стар. 3*

## БАГАЦЦІ БЕЛАРУСІ

Сярод галоўных праблем, якія стаяць перад сучасным чалавецтвам, вылучаюцца дзве, без вырашэння якіх немагчыма само існаванне чалавека. Гэта — забеспячэнне людзей прадуктамі харчавання, а прамысловасці — мінеральнымі рэсурсамі. Развіццё цывілізацыі заўсёды было звязана з выкарыстаннем карысных выкапняў; нездарма асноўныя яе этапы носяць назовы тых матэрыялаў мінеральнага паходжання, якія стварылі іх росквіт — каменны, бронзавы, жалезны вякі.

Зараз, калі Беларусь паступова ператвараецца ў суверэнную краіну, вельмі актуальна паглядзець на багацце нетраў і звярнуць увагу на яе мінеральныя рэсурсы.

Амаль да першых пасляваенных гадоў мы ведалі галоўным чынам толькі будову самай верхняй часткі разрэзу зямной кары, так званых чацвярцёвых адкладаў і звязаных з імі небагатых карысных выкапняў (торф, будаўнічыя матэрыялы, падземныя пітныя воды). Таму многія лічылі, а традыцыйна і да гэтага часу лічаць Беларусь беднай на мінеральныя рэсурсы.

Пасля правядзення шырокіх геафізічных і геалагічных даследаванняў стала вядома геалагічная будова больш глыбокіх слаёў зямной кары, а ўяўленне аб беднасці нетраў Беларусі геолагамі было адкінута. Аказалася, што крышталічны фундамент у адных месцах падыходзіць амаль да паверхні зямлі і стварае падняцці (Беларуская антэкліза ў цэнтры краіны, Мікашэвіцка-Жыткавіцкі горст і інш.), у другіх — глыбока (да 1,5—2 км, а на паўднёвым усходзе Беларусі — да 5—6 км) апушчаны — тут магутныя ападкавыя пароды запаўняюць глыбокія ўпадзіны і прагіны (Брэсцкая і Аршанская ўпадзіны, Прыпяцкі прагін). Кожны геалагічны перыяд быў непаўторны і пакінуў свае горныя пароды, да якіх належаць і свае карысныя выкапні. Таму з крышталічным фундаментам звязаны адны карысныя выкапні, а з рознымі адкладамі чахла ў розных геалагічных структурах — зусім іншыя радовішчы.

У пародах фундамента знойдзены радовішчы жалезнай руды: Навасёлкаўская каля Карэлічаў (ільменіт-магнетытавыя руды з сярэднім утрыманнем жалеза 26%) на глыбіне прыблізна 150 м і Акалоўская каля Стаўбцоў (жалезістыя кварцыты з утрыманнем жалеза 35%) на глыбіні 260 м і больш. Першае па запасах руды — сярэдняе радовішча, другое — буйнае. Падлічаныя запасы руд да глыбіні 700 м — больш за 700 млн. т, а прагнозныя — звыш 1,5 млрд. т. Гэтыя радовішчы комплексныя: тут ёсць тытан, ванадый, фосфар, кобальт, германій, серабро, золата. У Жыткавічах знаходзіцца радовішча рэдкіх і рэдказямельных элементаў, без якіх немагчыма развіццё радыёэлектронікі, авія- і ракетабудаўніцтва, ядзернай і рэнтгенаўскай тэхнік і г.д. У Глішкавічах на поўдні Беларусі і ў

☞ *Працяг на стар. 6*



*Беларускія нафтавікі.*

## ПРА ШТО ГАВАРЫЦЬМЕМ?

Дзейнічае ў Беластоку Таварыства аховы помнікаў /Towarzystwo Opieki nad Zabytkami/. Дакладней: беластоцкі аддзел гэтага Таварыства, галоўная сядзіба якога ў Варшаве. 7 лютага гэтага года прайшоў у будынку Кафедры фізікі Філіі Варшаўскага універсітэта ў Беластоку гадавы справаздачны сход сяброў аддзела.

Старшынёю Таварыства аховы помнікаў у Беластоку з'яўляецца Анатоль Адзіевіч, яго намеснікам Славамір Іванюк, а сакратаром Пятро Юшчук. Аддзел, паводле інфармацыі скарбніка Ірэны Парфянюк налічвае 94 членаў.

Гадавая справаздача аказалася непамернай у сваёй кароткасці да перыяду, які ахапіла. Наш аддзел, паведаміў старшыня, увесь год практычна нічога не рабіў. Дзейнасць наша абмежавалася да ўсяго пару інтэрвенцый, якія не прынеслі пажаданага выніку - ваяводскі захавальнік помнікаў, да якога мы звярталіся, захіляўся недахопам сродкаў. Нягледзячы на непаспяховасць мерытарычнай дзейнасці, дапоўніў справаздачу сакратар аддзела, таварыства праводзіла гэтак званую фармальную дзейнасць - у 1992 годзе ўправа аддзела правяла 5 пасяджэнняў ды наладзіла лучнасць з ваяводскім захавальнікам помнікаў.

У сувязі з невялікімі дасягненнямі Таварыства ў мінулым годзе старшыня аддзела запрапанаваў, каб сход засяродзіўся на крышталізацыі плана дзейнасці на бягучы год. Звярнуў пры гэтым увагу, што справай першаступеннай важкасці з'яўляецца пытанне белавежскага скансэна. У склад скансэна ўваходзяць пяць аб'ектаў, сказаў старшыня Адзіевіч. Першапачатковая ідэя скансэна заключалася ў тым, каб турыст, выязджаючы з Белавежы, меў уражанне, што знаходзіцца ў старой вёсцы. Скансэн ахоплівае агулам 5 гектараў зямлі. Людзям скансэн не надта падабаецца, маўляў, навошта паказваць тое, як мы калісьці жылі. Цяперашняя ўправа гміны ў Белавежы, у сваю чаргу, імкнецца адмяніць законнасць перадачы Міхалам Байко зямлі пад скансэн. Пра развал скасэна як бы і ніхто не ўпамінае - людзі хочуць усяго мець доступ да ракі, што на практыцы зводзіцца да гэтага першага. Сход аддзела ўпаўнаважыў управу рабіць неабходныя захады дзеля забеспячэння белавежскага скансэна.

У сувязі з белавежскім скансэнам Анатоль Адзіевіч падсунуў на разгляд сабраным адну ідэю - буду лічыць, сказаў ён, што белавежскі скансэн адыграў станоўчую ролю ў жыцці грамадскасці Беласточчыны, калі ўдасца наладзіць у ім сустрэчу-канферэнцыю ўсіх арыентацыяў, якія вырысаваліся ў няпольскай частцы грамадства Беласточчыны. Мы страшэнна падзеленыя - ёсць арыентацыя беларуская, ёсць царкоўная, украінская, але ўсіх нас ядная культура

☞ *Працяг на стар. 2*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Telefonuję z Białegostoku poważnie zaniepokojony. W ostatnią niedzielę do paru tysięcy wiernych w największym kościele duszpasterz zwrócił się w kazaniu, w którym duchownych kościoła prawosławnego, ewangelickiego określił mianem esbeków, agentów KGB. Pod adresem moich przyjaciół i sąsiadów, którzy modlą się w sąsiedniej cerkwi, padły słowa: bolszewicy, stalinowcy.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 31)*

* * *

*Moja żona domagała się seksu do ośmiu razy dziennie. Na dłuższą metę nie dawałem rady. Z konieczności więc, w swego rodzaju obronie koniecznej posłużyłem się anonsami w prasie. Oddźwięk był bardzo szeroki. Kto tylko mógł spieszył mojej żonie z pomocą.*

*41-letni szeryf Jeff Willets z Florydy wraz z 33-letnią Kathy oskarżeni są o prostytucję i sutenerstwo. (...) Jeff twierdzi, że była to tylko terapia, a Kathy dodaje, że chcieli w ten sposób zwalczyć jej nimfomanię. (...) Chętni do udziału w terapii „chorej" Kathy płacili za godzinę z nią od 50 do 100 dolarów.(...) Wszystko było pięknie, tylko że terapeutów nie uprzedzono o jednym. W czasie ćwiczeń miłosnych z Kathy z szafy jej sypialni przyglądał się im szeryf Willets. I nie tylko. Na bloczku mandatowym starannie notował ich miłosne przyzwyczajenia, czas trwania stosunku, a nawet rozmiary ich męskości. W szczególnie interesujących przypadkach korzystał z videokamery.*

*Panowie z najlepszego towarzystwa południowej Florydy drżą teraz przed skutkami ewentualnych publicznych enuncjacji oskarżonej pary. Jeden z polityków — Doug Danziger, który podobno uczestniczył w „ratowaniu" Kathy, ustąpił już bez komentarzy ze stanowiska wiceburmistrza Fort Lauderlade. Po mieście ma krążyć video z nagraniem jego terapeutycznych seansów z Kathy. Danziger uchodził za apostoła moralności. Oficjalnie zwalczał pornografię i prostytucję.*
*(Przegląd, nr 2, 1991)*

* * *

*Oddane na łaskę i niełaskę ZChN-u Ministerstwo Edukacji Narodowej nie widzi potrzeby wychowania seksualnego. Tymczasem Sanktuarium św. Andrzeja Boboli pragnąc przyjść z pomocą nauczycielom i wychowawcom w pełnieniu ich niełatwej roli założyło Podyplomowe Studium Rodziny. Wykładane są tam takie przedmioty jak: „Chrześcijańska wizja życia", „Rodzina kościołem domowym", „Teologia małżeństwa".*
*(Polityka, nr 7)*

На практычных занятках можна было б распрацоўваць тэмы: „Medytacje przedrozwodowe", „Metafizyka ejakulacji", „Praktyki duchowe orgazm obopólny climinujące".

* * *

*U nas w klasie nie pije tylko jedna osoba — powiedzieli uczniowie renomowanego liceum warszawskiego. Dziewczyny ostrzej piją niż chłopcy... 30 proc. przyznaje, że po wypiciu ma kaca, część ma mdłości, niektórzy systematycznie przychodzą do szkoły „po alkoholu".*
*(Gazeta Wyborcza, nr 36)*

Liceum ogólnopijące — гэтак называе школу „Gazeta Wyborcza". Выснова: сярэднія школы трэба было б перанесці ў кляштары, дзе ключык да кладоўкі з галавакружнымі напоямі мае адно абат (або прыёр). Тыя, што ўжо не могуць без выпіўкі, маглі б хадзіць у Zakon Pijarów.

* * *

*Prywatyzacja czyli ostatni skok na kasę.*
*(Gazeta Polska, nr 7)*

„Gazeta Polska" піша пра „skok" на дзяржаўную касу, які выканалі прадпрымальнікі з замежных фірмаў супольна з захабоманымі польскімі ўраднікамі. Штораз болей чалавек упэўніваецца ў тым, што ў сапраўднасці ў Польшчы прыватызацыя праводзілася і да таго, як парламент прыняў закон аб прыватызацыі.

* * *

*Пажалуйста, пива, но без мух.*
*(Белорусский рынок, н-р 1)*

Пакуль яшчэ ёсць сялёдка, усё зразумелае. Калі яе не стане, мы лічым, што заказ будзе гучаць: ***Пожалуйста, пива.***

* * *

*Wychowanie seksualne można realizować kształcąc uczniów pod względem językowym i literackim... Największe możliwości MEN wiąże z lekturą "Krzyżaków" Sienkiewicza. Uczniowie mogą się dowiedzieć o przewadze pierwiastka duchowego w miłości Zbyszka do Danusi i fascynacji fizycznej Jagienką. W "Syzyfowych pracach" Żeromskiego przeczytają o miłości Borowicza do Biruty — miłosnym zauroczeniu bez kontaktu fizycznego.*

*Na lekcjach biologii najbardziej śmiałym punktem jest "higiena osobista chłopca i dziewczynki".*
*(Gazeta Wyborcza, nr 41)*



## ПРА ШТО ГАВАРЫЦЬМЕМ?

*Працяг са стар. 1*

і радаслоўная, усе мы выводзімся з Русі. Што вы аб гэтым думаеце?

У гэтым месяцы выказаліся прысутныя на сходзе прадстаўнікі арыентацыяў - Богдан Мартынюк, Юры Місіюк, Славамір Іванюк, Віктар Стахвюк, Пятро Юшчук і аўтар гэтага артыкула. У прынцыпе ніхто не адкінуў гэтай ідэі - паспрабаваць можна, хоць бачанне супольнага ўсім "арыентацыям" чынніка ў іхніх "рускіх" карэннях моцна спрошчанае /ці румын гэта таксама рускі? - А.М./. Такім чынам сфармавалася ініцыятыўная група па справах арганізацыі канферэнцыі ўсіх "арыентацыяў". Месцам яе правядзення быў бы белавежскі скансэн, а тэрмін уступна вызначана на травень. Супольнаю ўсім "арыентацыям" платформаю мае быць культурная спадчына Беласточчыны і спосабы яе захавання, агульна кажучы.

А што вы, дарагія чытачы "Нівы", пра такое зборышча думаеце? Бо ж не сакрэт, што для адных з вас "рускасць" або "рускае паходжанне" можа паказацца шызафрэніяй сёння, але з другога боку, ёсць такія, якія да гэтага ставяцца сур'ёзна, прымаючы гэту катэгорыю як форму сваёй культурна-нацыянальнай адасобленасці.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

- Легенды Белавежы.
- Скіны ў Беластоку.
- Палітычны прагноз на 1993 г.
- Рысункі Лёніка Тарасэвіча.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### БЕЗ ПРАВА НА МАЁМАСЦЬ

Адменена абвешчанае ў жніўні мінулага года часовае прыпыненне дзейнасці КПБ-КПСС на тэрыторыі Беларусі.

Не выключана магчымасць, што пасля гэтага поруч з зарэгістраванай Партыяй камуністаў Беларусі — правапераемніцай КПБ, адновіць сваю дзейнасць і Кампартыя Беларусі. Аднак ні першай, ні другой не стаць нашчадкам кампартыйнай маёмасці — па-ранейшаму, згодна з пастановай Вярхоўнага Савета Беларусі, яна належыць дзяржаве.

### ПАЧНЕМ З ПАЧАТКУ?

Легалізаваныя на Беларусі камуністы, чаго і трэба было чакаць, апошнім часам значна актывізавалі сваю дзейнасць. Бюро Віцебскага абласнога камітэта кампартыі Беларусі заклікала ўсіх былых членаў КПБ стварацъ ячэйкі і праводзіць сходы па падрыхтоўцы да чарговага з'езда партыі. Ён, як запланавана на пасяджэнні бюро ЦК КПБ, павінен адбыцца ў красавіку. Асноўная з умоў для яго склікання — улік тых, хто па-ранейшаму застаўся верным ленінцам і гатовы ахвяраваць сродкі, неабходныя для аднаўлення дзейнасці.

Пакуль суд ды справа на месцах ужо пачынаюцца бойкі рэабілітаваных за права на канфіскаваную маёмасць. Першы сакратар Наваполацкай арганізацыі партыі камуністаў Беларусі ўжо прэтэндуе на былыя кабінеты гарадскога камітэта КПБ. У адваротным выпадку ён пагражае мясцоваму выканаўчаму камітэту судом.

### А Я НЕ ХАЧУ АДЛЯТАЦЬ

Чатырыста дзевяноста сем афіцэраў ваенна-паветраных сіл адмовіліся пакінуць беларускі горад Ліда разам з перадыслацыраванай у Расею часцю. Расейцы патрабуюць гарантыі, што на новым месцы адразу атрымаюць жыллё. Інакш, застаўшыся ў Лідзе, яны намерваюцца заняць будынкі падрыхтаваныя для афіцэраў войскаў, што выводзяцца з Цэнтральнай Еўропы.

У сувязі з гэтым інцыдэнтам у рэспубліцы створана спецыяльная камісія, у склад якой увайшлі парламентары і супрацоўнікі Міністэрства абароны Беларусі, запрошаны таксама прадстаўнікі Міністэрства абароны Расіі. Аднак расейскі бок пакуль не адгукнуўся ні на ультыматум афіцэраў-суайчыннікаў, ні на прапанову беларускіх калег. Між іншым, на Беларусі не забяспечана жыллём 11 тысяч вайскоўцаў нацыянальнага войска.



### РАДЗІМА ПАМЯТАЕ СВАІХ ПЕНСІЯНЕРАЎ

Прыемная навіна для беларускіх пенсіянераў, якія выехалі за межы Бацькаўшчыны. Урад рэспублікі выдзеліў сёлета для перавода пенсій за мяжу 26 тысяч долараў.

### ПЯТРУ МАШЭРАВУ АД УДЗЯЧНЫХ ВАЙСКОЎЦАЎ

Днямі ў менскім Доме афіцэраў адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 75-годдзю з дня нараджэння Пятра Машэрава. У гонар былога камуністычнага кіраўніка Беларусі быў наладжаны канцэрт, а таксама выстава твораў беларускіх мастакоў. Адметна, што галоўнымі завадатарамі свята былі Саюз моладзі Беларусі і Міністэрства абароны.

### „ЖЫЦЦЁ" ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ

У Менску нарадзілася новая грамадская арганізацыя „Жыццё". Яе задача — забяспечваць сацыяльную абарону перасяленцаў з раёнаў, што пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

### А Ў ГАСЦЯХ, А Ў ГАСЦЯХ БЫЎ АНШЛАГ

Завершаны Дні культуры Беларусі ў Кіеве. Гледачы канцэртных пляцовак на „біс" успрымалі выступленні папулярных ансамбляў „Песняры", „Сябры", „Верасы". Спадабалася ім і маладая група „Каляды", а таксама Магілёўскі тэатр цэнтра прыгажосці, грацыі і мастацтва. У кінатэатрах была паказана рэтраспектыва лепшых фільмаў кінастудыі „Беларусьфільм".

### ПРЫСМАКІ, ЛЕКІ ДЫ БУЛЬБА АД СЯБРОЎ

Чарговую партыю медыцынскага абсталявання, лекавых прэпаратаў для рэспубліканскага дыягнастычнага цэнтра „Антычарнобыль", а таксама садавіну і прысмакі для хворых дзяцей даставілі на Беларусь датчане — прадстаўнікі сямейнага дабрачыннага фонду „Сябры Дана". А ўрад Італіі ў рамках гуманітарнай дапамогі па пераадоленню эканамічных цяжкасцей пераходнага перыяду пачаў тым часам пастаўкі 1500 тон бульбы ў дар беларускаму народу. Сродкі, вырučаныя ад продажу „другога хлеба", пойдуць на рахунак беларуска-італьянскага партнёрскага фонду, а потым будуць накіраваны на рэалізацыю праекта гуманітарнага характару.

### АМЕРЫКУ АДКРЫЦЬ І СЯБЕ ПАКАЗАЦЬ

Услед за беларуска-літоўскай, беларуска-польскай і беларуска-ўкраінскай асацыяцыямі пры Скарынаўскім цэнтры ўтвораны Беларуска-амерыканскі клуб. У яго аб'ядналіся вучоныя і палітыкі, выкладчыкі і творцы, зацікаўленыя спрыяць больш цесным сувязям абедзвюх краін. Гэта створыць новыя магчымасці для вывучэння моў, гісторыі, літаратуры, для творчых, дзелавых і нефармальных чалавечых кантактаў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ЦЯЖКАЯ, ПРЫГОЖАЯ ПРАФЕСІЯ

*Працяг са стар. 1*

выя. Яны страшэнна, страшэнна дарагія.

*- Колькі ў Вас працаўнікоў?*

- Каля 450, з чаго 10 у Патсдаме, 30 у Лідзе, 50 у Картуз-Бярозе і 100 ў Варшаве, астатнія ў Бельску і ваколіцы: у Гайнаўцы, Кляшчэлях, Лубіне, Рудцы, Юхноўцы. У Варшаве працуем на чатырох будовах. На Беларусі будуем пасёлкі для войска, якое вяртаецца з Нямеччыны.

Нам найлепш працаваць у блізкай ваколіцы, бо ўсялякія выезды, гэта і дадатковыя кошты, і цяжкія варункі для рабочых - гатэлі, далёка ад сям'і. Але мусім браць тое, што ёсць. Сёння перабіраць не станеш.

Былі, праўда, добрыя выезды - у Нямеччыну, але летам мінулага года гэтая краіна паставіла шлагбаўм польскім фірмам і, практычна, цяпер няма ніякіх шанцаў на тое, каб атрымаць там нейкі заказ /у Патсдаме мы канчаем яшчэ стары кантракт/. Так, там можна было зарабіць. І рабочыя мелі добрыя ўмовы.

*- А як праца на Беларусі?*

- Мушу сказаць, што супрацоўніцтвам з Беларуссю я вельмі задаволены. У Польшчы існуе стэрэатып, што з усіх народаў былога Савецкага Саюза найменш скамунізаваныя прыбалты, што яны найлепш працуюць. Я асабіста пераканаўся, што беларусы працуюць не горш, а зусім наадварот, лепш за прыбалтаў. У Лідзе галоўны выканаўца пабудовы - віленскае прадпрыемства, а ў Картуз-Бярозе - беларускае, з Менска. На другой будове такі парадак, што наўрад ці дзе ў Польшчы можна такі знайсці. І супрацоўніцтва нам добра ладзіцца, не тое што з літоўцамі.

Або другі прыклад. На адной будове ў Варшаве працавалі латышы. Божа, якія ў іх яшчэ камуністычныя прывычкі! Ніякай ініцыятывы ў працы, майстра сам не возьме нават цэглу ці цэмент, бо гэта яму павінен падаць памагаты. Я ніколі яшчэ не спаткаў выпадку, каб беларусы рабілі што-небудзь так кепска.

Вынікам нашых кантактаў з Беларуссю ёсць тры сумесныя прадпрыемствы: у Менску, Гродне ды Івацэвічах. Два з іх, менскае і івацэвіцкае, вельмі добра развіваюцца і маюць, па-мойму, перспектывы на будучыню.

*- Скажыце, калі ласка, якая была дарога да стварэння фірмы "Unibud" такой, якую маем сёння.*

- Напачатку была іншая назва, "PBRol" /прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва/, а змянілі мы яе ў 1989 годзе, таму што ў нашых заказах выразна зменшыліся паслугі для сельскай гаспадаркі. Прадпрыемства ўзнікла ў 1972 годзе ў Сямяцічах. У 1975 годзе, рашэннем міністра /паколькі прадпрыемства было дзяржаўнае/, было яно перанесенае ў Бельск. Потым "PBRol" скамуналізаваўся, стаў уласнасцю горада Бельска. А ў снежні 1990 года ўзялі мы ад бурмістра, ужо "Unibud" у арэнду, як працоўная суполка. Калі мы гэта рабілі, паняцце прыватызацыі было новым і ў Варшаве, не то што ў Бельску. Падазравалі нас ва ўсім, толькі не ў добрых намерах.

*- Наменклатура хоча разбагацець?*

- Так, дакладна. Тым больш, што я апошнія два гады /у 1989-90 г.г./ быў старшынёю Гарадской рады. Раней у гарадскія ўлады я ніколі не лез, а тут як хто падкусіў. Але я не шкадую. На свае вочы бачыў, як людзі мяняліся, переставалі думаць пра свае партыкулярныя інтарэсы, а пачыналі глядзець на наш горад як на супольную ўсіх справу. Вельмі прыемна я гэта ўспамінаю і сёння.

*- А колькі гадоў Вы ў фірме?*

- Я тут кіраўніком з 1978 года, значыць, будзе ўжо 15 гадоў. Часам думаю, што задоўга, што даўно павінны мяне пагнаць адсюль. І пэўна так было б, каб мы ўвесь час не круціліся, не вышукоўвалі чагосьці новага, не мянялі, не мадэрнізавалі. Дзякуючы гэтаму, неяк знаходзім свае месца, заўсёды маем нейкую работу. Ну, але з гэтым калектывам і працаваць прыемна. Я хачу гэта падкрэсліць - нашы людзі вельмі надзейныя, і можна на іх разлічваць у будучыні.

*- Дзякую за размову і жадаю лепшых часоў для будаўнікоў.*

Інтэрв'ю ўзяў
**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# ФЕСТЫВАЛЬ НЯНАВІСЦІ

Традыцыйна ўжо амаль пасля кожнай радыёперадачы „Украінская думка" ставіцца нам пытанне, што думаем пра антыбеларускую істэрыю, якая становіцца галоўным пунктам гэтай праграмы. Не ведаю, чаму такія пытанні плывуць у адрас нашай рэдакцыі. Мы не маем ніякага ўплыву на гэты фестываль паклёпаў і нянавісці, які ў нядзелю раніцай пускае ў эфір Беластоцкае радыё.

14 лютага г.г. размоўцы Юры Місеюка: „війт" Ігнацюк, паэт Кірызюк і будучы вучоны (пакуль што студэнт) Белаказовіч даказалі — без ніякага сумнення — украінскі характар мовы і культуры жыхароў Беласточчыны. Не было б тут нічога новага ў іх выказваннях, бо пра гэтыя дасягненні украінскай навукі можна было пачуць ужо не раз. Гэтым разам аднак пералічваліся ворагі „украіншчыны", а сярод іх „Ніва" мае гонар быць галоўным. Гэта зусім зразумела, хаця б таму, што мову, на якой пішам, называем беларускай. Цяжка, аднак, было зарыентавацца з выказванняў паэта Кірызюка, у чым бельскім „украінцам" пагражае Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Паэт гаварыў пра нейкую варожую дзейнасць БДА супраць „украінцаў" і праваслаўнага пасла Яўгена Чыквіна.

Феномен Беласточчыны заключаецца ў тым, што колькасць антыбеларускіх шызафрэнікаў і змест іх паклёпаў застаецца такая самая, нягледзячы на палітычную кан'юнктуру. Адна змена гэта тое, што апошнім часам Казікаў заступілі толькі Іваны. Сумна робіцца, калі чалавек падумае, што ўсе гэтыя „ашаломы" нядаўна былі сярод т. зв. „нашых хлопцаў".

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

P.S. Спадара Паўлючука з Беластока публічна прашу не будзіць мяне гукам тэлефоннага званка ў нядзелю раніцай, нават тады, калі б у той момант Місеюк ці Рыжык даказалі, што ўжо Адам і Ева былі украінцамі. Няхай хлопцы гавораць, што хочуць. Я і так ім у нічым не магу дапамагчы.

# КАГО ВОЙТ БЕЛЬСКАЙ ГМІНЫ ЛІЧЫЦЬ ВОРАГАМ

14 лютага адбыўся ў Бельску раённы агляд „Беларуская песня '93". На гэты агляд быў запрошаны, між іншым, калектыў з Дубяжына. Запрашаць ездзілі спецыяльна кіраўнікі БГКТ: Валянціна Ласкевіч, Аляксандр Баршчэўскі і Янка Сычэўскі. У калектыве, які апошні час вядзе інструктар з Украіны, паявілася рознагалоссе, ехаць — не ехаць. „Большасць вырашыла не ехаць, — кажа Мікалай Раманюк, — бо калі паедуць, тады войт Бельскай гміны не дасць аніякіх грошай калектыву!"

Яшчэ перад аглядам з дубяжынскім калектывам спаткаўся і войт Юры Ігнацюк. Запрапанаваў ён самадзейнікам паехаць і заспяваць... пасля конкурсу.

У выніку ўсіх гэтых заахвочванняў і знеахвочванняў у аглядзе прынялі ўдзел дзве спявачкі з Дубяжына, якіх прывёз Мікалай Раманюк (адна з іх — ягоная жонка).

Сарганізаваць агляд фінансава дапамаглі бацькоўскія рады Пачатковай школы н-р 3 і Беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча ды бурмістр горада Бельска. Узнагароду для калектыву з Орлі ўстанавіў войт гэтае гміны Міхал Іванчук. За фінансавай дапамогай арганізатары агляду звярнуліся таксама з пісьмовай просьбай да войта Бельскай гміны. Войт Юры Ігнацюк адказаў, па тэлефоне Васілю Ляшчынскаму, што не будзе фінансаваць сваіх ворагаў.

**Каго Юры Ігнацюк лічыць сваім ворагам? Ці жанчын з Кнарыд і Дубяжына, якія спявалі на аглядзе беларускай песні, ці персанальна Ляшчынскага, якога вучнем, свайго часу, быў і Ігнацюк?**

Удакладніць гэта хацеў я ў панядзелак, 15 лютага. На жаль, Юры Ігнацюк сказаў мне, што больш-менш ведае „Ніву" і таму нашу размову лічыць беспрадметнай, а я магу напісаць сабе што захачу.

Усё тут стала ясна, „Ніва" зноў аказалася галоўным віноўнікам.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# ДАРАГАЯ БЕЛАВЕЖА

Кожны, хто хоча пабачыць Белавежу і Белавежскую пушчу, павінен найперш праверыць свой кашалёк, ці хопіць яму грошай на такую роскаш. На жаль, цэны на турысцкія паслугі і за наведванне турысцкіх аб'ектаў пастаянна ўзрастаюць.

Ад пачатку бягучага года нармальны білет у музей і запаведнікі каштуе ўжо 8 тысяч зл., льготны - 4 тысячы зл. Экскурсавод, неабходны ў запаведніку прыроды, каштуе 200 тысяч зл. За гэтыя грошы павінен ён вадзіць экскурсію поўных 6 гадзін, а група не павінна налічваць больш 25 чалавек. Індывідуальныя турысты, каб панізіць сабе кошты, аб'ядноўваюцца ў групы. Эксурсавод, які валодае замежнымі мовамі, каштуе 300 тысяч зл.

Існуе магчымасць наведаць нацыянальны парк /выключна па існуючых, неабазначаных шляхах/ і без экскурсавода. У такіх выпадках трэба ў дырэкцыі БНП купіць пропуск. Нармальны каштуе 20 тысяч зл., льготны - 10 тысяч зл. Аднак гэтай магчымасцю не раю карыстацца асобам, якія ніколі раней не наведвалі парку. Асабліва хутка можна заблудзіць, калі турысцкія шляхі прыкрыты снегам.

Той, хто захоча пакатацца па пушчы на санках ці на брычцы, можа гэта зрабіць за 200 тысяч зл. У брычку змяшчаецца 4 дарослыя асобы, або 5 дзяцей. Уезд брычкай у нацыянальны парк каштуе дадаткова 30 тысяч зл. /на карацейшы шлях/ і 50 тыс. /на даўжэйшы/.

Турысцкія групы ахвотна праводзяць час ля вогнішча. Калі заказваюць яго комплексна, разам з іншымі турысцкімі паслугамі - плацяць 200 тыс. зл. Само вогнішча каштуе на 100 тыс. больш, а гарманіст 200 тыс. зл. У такой жа самай цане і сігнальшчыкі.

Калі хто хоча паслухаць даклад аб Белавежскай пушчы і пагледзець каляровыя дыяпазітывы, павінен выкласці з кашалька 200 тысяч злотых.

Ад нейкага часу Белавежскі нацыянальны парк бярэ грошы ад тых, хто хоча фатаграфаваць або фільмаваць яго аб'екты з камерцыйнай мэтай. І так, за фатаграфаванне запаведніка прыроды за адзін дзень плаціцца 150-200 тысяч зл. /за фільмаванне: 360-600 тысяч зл./, за фатаграфаванне зубрыных статкаў на свабодзе неабходна выкласці 250-500 тысяч зл., у паказным запаведніку толькі 150-250 тысяч зл. Фільмаванне ж зуброў каштуе адпаведна: 300-600 і 250-350 тысяч злотых.

За дыханне белавежскім паветрам плаціцца 3 тысячы злотых у суткі /т. зв. кліматычная плата/.

Зрэшты, плаціцца за ўсё: харчаванне, начлег, турысцкія даведнікі, паштоўкі...

На суцяшэнне дабаўлю, што плацяць не толькі турысты, але і тыя, што на іх зарабляюць. Вось, такі экскурсавод, каб магчы вадзіць групы, мусіць заплаціць 200 тысяч зл. за перападрыхтоўку, зрабіць узнос на ПТТК - 60 тыс. зл. і купіць у БНП ліцэнзію за 100 тыс. зл. Па гэтай прычыне ў гэтым годзе шмат экскурсаводаў спыніць сваю дзейнасць, асабліва тыя, якія рэдка водзяць групы.

**ПЁТР БАЙКО**



*Хочаце пакатацца па пушчы, калі ласка — усяго за 200 тысяч злотых.*
**Фота В. Рынажэўскага**

# ВЫБАЧАЕМ І СПАЧУВАЕМ

Справа камп'ютэраў, якімі карысталася „Ніва" і якія вясной 1992 г. былі забраныя з рэдакцыі дзеячамі БГКТ давяла да новых падзелаў у беларускім асяроддзі. Тое, што тады рабілася, кампраметавала не толькі кіраўніцтва Таварыства, але ўсё нашае асяроддзе. Беластоцкі паляк наогул не адрозніваў нашых палітычных ці ідэалагічных падзелаў, ведаў толькі, што беларусы дзяруцца паміж сабою за нейкую маёмасць, якую падарыў ім урад.

Стаўшы рэдактарам „Нівы" паспрабаваў я дагаварыцца з уладамі БГКТ. Размова з намеснікам старшыні ГП БГКТ Янам Сычэўскім у канцы жніўня мінулага года давала невялікія падставы для аптымізму і нармалізацыі беларуска-беларускіх адносін на Беласточчыне. Хаця мой размоўца не скрываў сваёй нянавісці да непакорнага калектыву „Нівы", даваў аднак зразумець, што зробіць усё, каб рэдакцыя магла карыстацца тэхнічным абсталяваннем, якое было і купленае дзеля патрэбаў выдавецкага руху. На жаль, нічога з гэтага не атрымалася.

Прыпомню толькі, што справа ідзе пра маёмасць, якая была куплена за грошы, дадзеныя ў 1990 г. беларусам урадам Мазавецкага. А была гэта тады сума немалая, бо аж 4 мільярды злотых або 420 тысяч амерыканскіх долараў. Усе гэтыя грошы былі пералічаны на рахунак БГКТ, адзінай у той час беларускай арганізацыі, якая мела банкавы рахунак. Праз гэты рахунак фінансавалася таксама і выданне „Нівы".

Польскі ўрад падарыў падобныя сумы ўсім меншасцям і зазначыў, што трэба іх выкарыстаць дзеля стварэння базы для культурнай дзейнасці ў будучым. За 500 мільёнаў злотых купілі тады гэтыя няшчасныя камп'ютэры.

У 1991 г. пачалі ўзнікаць іншыя беларускія арганізацыі, якія, найкарацей кажучы, не хацелі з БГКТ мець нічога супольнага. Пасля няўдалай спробы падпарадкавання калектыву „Нівы", тыднёвік наш таксама адарваўся ад Таварыства. Рэдакцыя „Нівы" атрымала ў спадчыну 75 мільёнаў даўгоў у беластоцкай друкарні.

Выйшла так, што 420 тысяч долараў, якія былі перададзены на патрэбы беларускага асяроддзя, знайшліся ў распараджэнні выключна Таварыства. Сёння яго старшыня нават у прысутнасці міністра, які перадаваў гэту суму, не саромеўся сказаць: „Камп'ютэраў не аддамо, бо яны нашы, а лёс „Нівы" нас не цікавіць".

Ведаю, што тэма гэта на старонках „Нівы" пачынае ірытаваць некаторых чытачоў. І таму нягледзячы на тое, што ў рэдакцыю наплывае шматлікая колькасць лістоў, якіх аўтары хацелі б узяць голас у гэтай справе, прапаную гэтую дыскусію спыніць. На маю думку, трэба яе закончыць не толькі таму, што паўтараюцца аргументы і факты, але таксама і таму, што ўспрымаецца яна як атака „Нівы" на заслужаную арганізацыю, хаця рэдакцыя дала толькі магчымасць выказацца радавым членам БГКТ.

Плывуць да нас прапановы, каб пайсці ў будынак БГКТ і адабраць камп'ютэры такім жа спосабам, як зрабілі гэта дзеячы Таварыства ў рэдакцыі „Нівы". Хаця, дзякуючы „сябрам" з Таварыства, кожны месяц мы трацім 15 мільёнаў злотых, нападаў ніякіх рабіць не збіраемся. Не будзем кампраметаваць ні сябе, ні свайго грамадства, а прапановы такія лічым недарэчнымі.

Аўтара карэспандэнцыі з Беластока, які пытае, ці ведаем пра праекты выкарыстання камп'ютэраў фірмамі, звязанымі з „левымі сацыял-дэмакратамі" і іншымі польскімі ўстановамі, інфармую, што пра нешта такое мы чулі, але лічу, што лепш, каб хто-небудзь карыстаўся гэтай унікальнай тэхнікай, чым бы яна развальвалася пад сталом у бухгалтара.

Аўтару ліста з Сямяціч прапануем не хвалявацца паклёпамі, якія кіраўнікі БГКТ кідалі на „Ніву" падчас раённага агляду беларускай песні ў тым горадзе. Тое самае гаварылі яны і падчас сходу Таварыства ў Бельску і паўтараць будуць яшчэ не раз пры кожнай нагодзе. Нянавісць нішчыць перш за ўсё тых, якія яе носяць у сваёй душы. Мы можам толькі паспачуваць гэтым няшчасным людзям, якім перш за ўсё належыцца пашана за ранейшую дзейнасць і дасягненні ў галіне развіцця беларускай культуры.

Сярод рэдакцыйнага калектыву існуе перакананне, што трэба выбачыць тым, якія нас не пераносяць і робяць нам шмат кепскага. Асабліва таму, што гэта ўжо старэйшыя людзі, якія сапраўды маглі заблытацца падчас маланкавых у апошнія гады і глыбокіх пераменаў. Старэмся іх разумець і не будзем адплачваць гэтым самым.

ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ

# ДАКУМЕНТЫ СХОДУ БЕЛАРУСАЎ

У снежні 1992 г. адбыўся ў Менску Сход беларусаў блізкага замежжа. Рэдакцыя наша атрымала прынятыя на ім дакументы. Прыводзім іх кароткае рэзюмэ.

### ЗАЯВА ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПЕРШАГА СХОДУ БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

Дакумент сцвярджае, што раскінутыя па розных прычынах за межамі Радзімы, беларусы аддаюць сваю працу і талент другім народам і дзяржавам. Вялікім іх клопатам з'яўляецца трывога за лёс Бацькаўшчыны. Удзельнікі сходу занепакоены тым, што не выпрацавана яшчэ канцэпцыя дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі; якая гэта мае быць дзяржава, яе геапалітычная стратэгія і месца ў адноўленым свеце. Новая беларуская дзяржава павінна будавацца па прынцыпах дэмакратыі, паводле якіх правы чалавека з'яўляюцца прыярытэтнымі над інтарэсамі дзяржавы. Залогам адраджэння дзяржаўнасці з'яўляецца адраджэнне беларускай мовы і культуры: на жаль, у апошнім часе наглядаецца абмежаванне гэтага працэсу. Непакоіць таксама блакіраванне эканамічных рэформ у рэспубліцы і канфесійная сітуацыя. Удзельнікі звяртаюць уладам Рэспублікі Беларусь увагу на патрэбу аднолькавых адносін да ўсіх канфесій і падкрэсліваюць, што нельга дапусціць, каб былі яны праваднікамі інтарэсаў іншых дзяржаў.

### ДА ПАРЛАМЕНТАЎ І ЎРАДАЎ ДЗЯРЖАЎ, ЯКІЯ ЎВАХОДЗІЛІ РАНЕЙ У СКЛАД СССР

Дакумент сцвярджае, што ў выніку шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын знайшліся за межамі Бацькаўшчыны сотні тысяч беларусаў, у тым ліку і найбольш адукаваныя спецыялісты. Сход звяртаецца да ўлад постсавецкіх дзяржаў, у якіх яны пражываюць, каб аказаць ім усебаковую дапамогу ў ажыццяўленні іх нацыянальна-культурных запатрабаванняў.

### ДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Дакумент вітае тых, якія далёка ад зямлі сваіх продкаў высока трымалі гонар беларусаў і Беларусі і самааддана перахоўвалі беларускія дзяржаўныя сімвалы. ЗБС „Бацькаўшчына" будзе намагацца будаваць давер і дружбу паміж пражываючымі на цэлым свеце сынамі Беларусі.

### ДА НАРОДУ БЕЛАРУСІ

Дакумент, апіраючыся на багатую гісторыю Беларусі, заклікае да ўсведамлення нацыянальнай годнасці і звяртае ўвагу на адказнасць моманту па адраджэнню беларускай дзяржаўнасці, культуры, мовы і традыцый.

### ДА ПАРЛАМЕНТА І ЎРАДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Удзельнікі Сходу звяртаюцца да ўлад РБ з шэрагам канкрэтных пастулатаў, між іншым:

— заключыць пагадненні з краінамі, дзе пражываюць беларусы, дзеля задавальнення імі нацыянальна-культурных запатрабаванняў,

— аказаць дапамогу беларускай дыяспары ў рэалізацыі культурна-асветных патрэб,

— стварыць умовы да вяртання на Радзіму, асабліва інтэлектуальна адораных, выхадцаў з Беларусі; прадумаць механізм іх падключэння для вырашэння найважнейшых праблемаў краіны; пацвердзіць ураджэнцам Беларусі беларускае грамадзянства,

— сумежным з РБ рэгіёнам: Беласточчыне, Віленшчыне, Латгаліі, паўднёвай Пскоўшчыне, заходняй Смаленшчыне і Браншчыне і паўночнай Чарнігаўшчыне, дзе захаваліся беларуская мова, звычаі, абрады і народна-паэтычная культура аказаць дзейсную ўсебаковую дапамогу ў захаванні беларускай культурнай ідэнтычнасці,

— будаваць узброеныя сілы Рэспублікі шляхам выхавання нацыянальна свядомых і патрыятычна настроеных салдат і афіцэраў, садзейнічаць пераходу на беларускую мову, вяртанню беларускіх ваеннаслужачых з іншых армій на Радзіму.

Удзельнікі Сходу спадзяюцца на спрыяльныя адносіны дзяржаўных структур да патрэб беларускай дыяспары.

апр. ав

# ПАЛЯКІ Ў ЛЕТУВЕ І НА БЕЛАРУСІ

У Ольштыне дзейнічае Таварыства прыяцеляў Вільні і Віленшчыны, да якога належаць жыхары даўняга Віленскага ваяводства. Тэрыторыя Віленшчыны пасля апошняй вайны змянілася: частка знайшлася ў межах Летувы, частка ў межах Беларусі. На віленскай зямлі жылі побач сябе летувісы, палякі і беларусы. У Летуве палякі мелі свае школы і газеты, на Беларусі было трошкі горш. Ад нейкіх двух гадоў на Беларусі кожны можа ўжо свабодна карыстацца сваёй мовай. Беларуская дзяржава стварыла добрыя ўмовы для развіцця польскай культуры. Узнік Саюз палякаў з цэнтрам у Гродне, пачала выходзіць польскамоўная газета, масава адкрываюцца польскія школы і культурныя ўстановы.

АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК

САКРАТ ЯНОВІЧ

# ЗАЗІМАК НАД ІСЛАЧЧУ /5/

Поначы ідучы цераз ваколіцу здзівіла мяне, што не чутно сабак. Я, мабыць, не звярнуў бы на гэта ўвагі, калі б не пажываў у мястэчковых сваіх Крынках, у якіх рэдка ў каго не брэша дварняк. Таня растлумачыла тое проста і, відаць, праўдзіва: у саветаў няма чаго пільнаваць і не вельмі ёсць чым карміць... Лепей трымаць свінча.

Дваццаць другога снежня амаль цудам вярнуўся з Менску, апошнім з апошніх аўтобусаў /перабоі ад браку бензіну/. А гэты канчаў маршрут не далей Ракава, адкуль да Дома творчасці "Іслач" будзе крыху кіламетраў ды ўсё лесам. Наслухаўшыся пра разбоі, ішлося пад зорным небам у перадпоўнач з душою ў пятках.

У адвячорак яшчэ меў аўтарскую сустрэчу ў Беларускім гуманітарным ліцэі. Залішне паспадзяваўся быў на эфект; школа - аднак - маладзюсенькая, толькі пачынаецца, і навучэнцы ў ёй надта дзіцячыя, нясмелыя... Арганізуецца пад праміненцкім апякунствам, у якасці пажаданай кузні будучых кадраў Рэспублікі. Абавязкова інтэлігентных і патрыятычных. Выкладаюць у ёй славы нацыянальнай навукі. Прыемна было пабачыць тут з Міколам Ермаловічам, Лявонам Баршчэўскім, Алегам Трусавым... Варункі унікальна добрыя: улады перадалі ў карыстанне - еўрапейскіх стандартаў - будынак ліквідаванай цэнтральнай партыйнай школы. Камунякі цанілі Захад, гідзячы яго ўсяляк адначасна перад мільёнамі рабацяшчых вашаеў, каб не падняслі бунт!

Элітарнасць ліцэя выклікала моцны націск бацькоў, зацікаўленых жыццёвай кар'ерай дзетак. У выніку - некалькі кандыдатаў на адно месца. Беларускі гуманітарны ліцэй, яго дырэкцыя займеўшы такія формы паводзіць сябе з універсітэцкім размахам: утварае філіі ў большых гарадах /Надзвычайна - і ў паўмільённым Гомелі/. Не будзь жа Беларускай Дзяржавы - ніхто не лез бы абцэсам у такую вучэльню, няхай сабе і знакамітую. Дагэтуль хлеб гарантавала расійшчына, таму і хапаліся за яе, бы за бараду Госпада Бога!

Недабойкі Савецкага Саюза падымаюць віск. Маскоўская "Правда" не пасаромілася вульгарнасці, друкуючы, вось, ліст настаўнікаў з зарусеглага датла Віцебска: "*Мы, белорусы, исконно имперский народ, лишились Родины - Великой России...*" І гэтак далей, у паэтыцы самадзяржаўя. Чытаеш такое і вачам не верыш: публічная шызафрэнія! Недалечаныя з дома для псіхічна хворых?

У амфітэатральнай залі менскай галоўнай пошты пранізаў мяне нечы ўпарты позірк. Выпрэчваўся ў мой бок касавокі мужчыніска ў вушанцы і ў паходжаным паліто. Зглядзеўшы, што я кінуў - нарэшце - гартаць газеты, падышоў да мяне: прадчуў чужаземца. Загаварыў па-руску, я адказаў па-беларуску, але ён зразумеў, як гэта звычайна тут, што... па-польску. Хуценька начыркаў пісульку: "*Я Ишхильдин Хабидулла Ахмадуллович живу в гор. Минске, уроженец из Урала, Башкирия. Моя лична прозьба передать по радио Польши что бы слышали весь земной шар что я изобрел вечный двигатель в 1980 году и никак не могу до сих пор здать это изобретение. Это такое изобретение что можно выбрасить атомную электростанцыю, и мой двигатель будет работать без никакого горючия, и автомашины тоже будут ездить без горючего, и кофемолки, и так далее*".

Зрабілася зусім дзіка на душы! Але, у параўнанні з вар'яцтвам - некалі жа ўраўнаважанай - "Правды" я адчуў нямала сімпатыі да гэтага няшчаснага башкірца. Ён не зычыць народу, каб зноў накінуў сабе на шыю добра вядомы хамут рабства. Надта ж чалавечны ў сваёй памешанасці, ахоплены векавечнай мараю пра рай на Зямлі.

*/Працяг будзе/*

# ВЯЛІКІ ПОСТ І ЯГО АСАБЛІВАСЦІ

Чакае нас перыяд Вялікага Посту. З'яўляецца ён самым важным з ліку ўсіх шматдзённых постаў у Праваслаўнай Царкве. Яго назва і значэнне адлюстроўваюць важнасць гэтага перыяду, які рыхтуе нас на спатканне самага вялікага свята - Святой Пасхі Гасподняй.

Вялікі Пост быў установлены галоўным чынам на памяць посту Ісуса, які сорак дзён і начэй прабываў на пустыні і рыхтаваўся да прапаведвання Евангелля - Добрай Навіны. Пачаткі Святой Саракадзесятніцы сягаюць апостальскіх часоў. Сведчанні аб гэтым, што працягваўся ён сорак дзён ужо ў II і III стагоддзях даюць нам, між іншым, св. Ірыней і Арыген. Не ўсюды аднак пачынаўся ён у аднолькавым тэрміне. Канчатковы парадак гэтага посту, які захаваўся да нашага часу, а які пачынаецца з панядзелка пасля Сырапуснай Нядзелі да Вялікай Суботы, быў установлены ва ўсходніх Цэрквах у IV стагоддзі.

Святая Саракадзесятніца - гэта дарога, якая вядзе нас к радасці сустрэчы з уваскрэсшым Хрыстом. Гэта перыяд нашых змаганняў з грэшнай натурай. Царква прыпадносіць яго нам дзеля духоўнага ачышчэння. Гэта дні асаблівай пакоры, раскаяння, устрыманасці, якія дазваляюць на асаблівую падрыхтоўку да Таінства Прычашчэння ў выніку узмоцненай малітвы, посту і Пакаяння. Дапамагае нам у гэтым таксама асаблівы інтэр'ер царквы, аблачэнні святароў і спецыфіка набажэнстваў. Скупое святло, рэдкае адкрыванне царскіх варотаў, частыя вялікія паклоны /да зямлі/ ці чорныя, жалобныя рызы - гэта ўсё мае нам напамінаць аб тым, што цяпер не пара на трыумф і радасць, але на пакору, смутак і шкадаванне за свае грахі.

Вялікі Пост ссылаецца на старазаветны абычай ахвяроўваць Богу дзесятую частку, т. зв. дзесяціну, з усіх дасягнутых на працягу года плёнаў. У гэтым выпадку гэта духовая дзесяціна, якую ахвяроўваем мы Госпаду. Калі ад перыяду ўсяго посту /паводле устава Вялікі Пост трывае 6 тыдняў, а да яго далучаецца сёмы - асаблівы тыдзень - Тыдзень Страсцей Гасподніх/ адняць суботы і нядзелі /калі ў гэтыя дні пост падвяргаецца аслабленню/ і дадаць Вялікую Суботу /адзіную суботу ў годзе, калі абавязвае **строгі пост**/, дык атрымаецца 36,5 дня, што складае 1/10 частку года /трэба памятаць, што ў Вялікую Суботу посціцца да позняй ночы, што дае дадатковае 0,5 дня/.

Паводле царкоўных прынцыпаў у Вялікі Пост рыбу можна есці двойчы - на Благавешчанне і Вербніцу, а ў суботы і нядзелі дазваляецца спажываць алей і віно ў абмежаванай колькасці дзеля падмацавання цела, так як у Вялікі Чацвер. У першыя два дні і ў Вялікую Пятніцу абавязвае забарона спажывання ўсялякай ежы, а ў Суботу - строгі пост, без алею і гатавання. Вядома, такія законы не датычаць дзяцей, бярэменных жанчын, хворых і старых людзей. Пэўна і большасць з нас, здаровых і дарослых чалавек, не стрымае па розных прычынах гэтых правілаў. Аднак мы павінны імкнуцца выпаўніць у найбольшай ступені гэтыя правілы, бо гэта нашая ахвяра для распятага за нашы грахі і ўваскрэсшага для нашага збаўлення Хрыста. Памятайма аб гэтым, што цялесны пост нераздзельна звязаны з духовым постам, і калі будзем пасціць абмяжоўваючы толькі ежу, а не будзем пасціць нашымі паводзінамі, думкамі і ўчынкамі, то сапраўды цяжка нам будзе захаваць і гэты першы пост і наадварот.

Час, калі мы рыхтуемся да сустрэчы Уваскрашэння Госпада, з'яўляецца выключным перыядам і характэрны ён многімі асаблівасцямі, якія адносяцца толькі да гэтага перыяду ў жыцці Праваслаўнай Царквы. Вось найважнейшыя з іх:

**I. Вялікапосная малітва Яфрэма Сірына**

Чытаецца яна на кожным набажэнстве за выключэннем субот і нядзель /з увагі на паслабленне посту - у гэтыя дні не становімся на калені і не робім вялікіх паклонаў/. Малітву гэту, якая складаецца з трох частак, адмаўляем наступным чынам: **Господи и Владыко...** - адзін вялікі паклон, падаем на калені і галавой нахіляемся да зямлі; **Дух же целомудрия...** - адзін вялікі паклон; **Ей, Господи Царю...** - адзін вялікі паклон; у далейшым выконваем дванаццаць малых паклонаў /нахіляемся і рукой дакранаемся да зямлі/ са словамі: **Боже, очисти мя грешного.** Затым паўтараем яшчэ раз цэлую малітву і на яе заканчэнне робім адзін вялікі паклон.

**II. Вялікі Канон св. Андрэя Крыцкага**

Чытаецца ён на працягу чатырох першых дзён посту часткова, а потым поўнасцю, разам з жыціем св. Марыі Егіпцянкі ў чацвер на ютрані пятага тыдня /у сераду вечарам/. Налічвае ён каля 250 трапароў з прыпевам "**Помилуй мя Боже, помилуй мя**". Нармальна канон налічвае каля 30 трапароў. Гэты можна смела назваць вяршыняй вялікапоснай паэзіі. На прыкладзе біблейскай гісторыі і звязаных з ёю персанажаў Старога і Новага Заветаў паказваецца дарога душы ад падзення да ўзвышэння. Адбываецца гэта шляхам паступовага вызвалення ад граху аж да збавіцельнага пакаяння. Жыццё святой Марыі Егіпцянкі з'яўляецца прыкладам такога ўзвышэння з вялікага ўпадку і дасягнення святасці.

**III. Літургія Папярэдне Пасвячоных Дароў**

Назва літургіі выводзіцца з таго, што Святыя Дары для яе рыхтуюцца на служанай у папярэднюю нядзелю Літургіі св. Васілія Вялікага і захоўваюцца на Святым Прастоле ў Даразахавальніцы. Няма тады падчас гэтай Літургіі праскаміды і пасвячэння Дароў, а толькі пачынаецца яна вячэрняй. Яе з'яўленне вяжацца з забаронай служыць поўную Літургію ў часе Вялікага Посту /за выключэннем субот і нядзель/. У праваслаўным значэнні Літургія - гэта Еўхарыстыя - Прычасце, менавіта свята і радасць, што ёсць нязгоднае з разуменнем посту. Таму што старажытныя хрысціяне прымалі Святое Цела і Кроў нават некалькі разоў у тыдзень, цэлую ўрачыстую Літургію замянілі Літургіяй Папярэдне Пасвячоных Дароў, якую служылі вечарам і тады захоўваемыя ў царкве Святыя Дары атрымоўвалі тыя, хто пасціў аж да вечара. Падчас гэтай Літургіі пры спяванні радкоў з псалома 140 "**Да исправится молитва моя...**" вернікі стаяць на каленях, а пасля іх заканчэння і пасля слоў "**Ныне силы небесныя...**" і "**Буди имя Господние...**" чыняць па тры вялікія паклоны.

**IV. Страсныя набажэнствы**

У некаторых раёнах заходняй Беларусі і Украіны ў пятніцы першых чытырох тыдняў служацца т. зв. Пасіі /грэчаскае **pasia** - страдаю/, калі гэта падчас "**повечения**" чытаюцца чатыры Евангеллі аб Страсцях Хрыстовых. У нас служацца яны ў нядзелю, таму што ў пятніцу спяваецца т. зв. Крестную песнь, што, дарэчы, не з'яўляецца праваслаўнай традыцыяй і ў іншых мясцах яна невядомая.

**V. Літургіі**

- панядзелак, аўторак, чацвер - не служацца /апрача трох выключэнняў/,
- серада і пятніца - Літургія Папярэдне Пасвячоных Дароў /толькі на Благавешчанне св. Іаана Златаустага/ і ў тры першыя дні Вялікага Тыдня,
- субота - св. Іаана Злалауста,
- нядзеля - св. Вясілія Вялікага /за выключэннем Вербніцы і Вялікай Суботы, калі ёсць наадварот/.

**С. Н.**

<u>**Ліст у рэдакцыю**</u>

У 1(1912) нумары „Нівы" быў змешчаны допіс Вашага карэспандэнта Пятра Байко „Шукаем здымкаў белавежскай царквы", у якім Аўтар просіць адклікнуцца тых, якія ведаюць прозвішчы свяшчэннаслужыцеляў царквы, паказаных на здымку. У 1911-1913 гадах вучыўся я ў 2-класнай мужчынскай школе ў Белавежы і ведаю прозвішчы людзей, якія знаходзяцца на гэтым здымку. Помню паляванне цара Мікалая II у 1913 годзе і многа яшчэ чаго цікавага. Калі гэта Аўтара цікавіць, ветліва прашу звязацца са мною. Мой адрас:

**Ян Крук**
**Навасады 91**
**17-211 Дубіны**

# ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

## VIII. АЙЦЕЦ АНТОН ЮР'ЕВІЧ САСНОЎСКІ

Марозным лютым 1775 г. па ўсіх Кляшчэлях і наваколлі разышлася радасная вестка - у сям'і Юрыя Сасноўскага і Апалоніі /з дому Куяўская/ нарадзіўся сын. У Хрышчэнні дзіцяці было дадзена імя Антон.

Хлопчык, як адзіны мужчынскі наследнік роду ўзрастаў у асаблівай турботе бацькі. Пачатковую адукацыю атрымаў ён у заснаванай яшчэ дзедам, а. Іаанам, кляшчэлеўскай школе "царкоўнікаў". Пасля закончыў 3 класы вучылішча ў Бельску. Хатняя атмасфера і самаадукацыя спрыялі духоўнаму і інтэлектуальнаму ўзрастанню Антона.

2 лютага 1794 г. Антон Сасноўскі ажаніўся з Юліянай Дыбоўскай, "нявестай, адоранай прыгожымі якасцямі жонкі і маці" /а. М. Бабroўскі/. Наступныя пяць гадоў пасля шлюбу Сасноўскі дасканаліў свае веды ў тэорыі і практыцы, рыхтаваўся да святарскага стану. Пасля ўдалых экзаменаў перад камісіяй у супрасльскім манастыры, 20.05.1799 г. пасвячаецца ён у святары, і назначаецца вікарным Мікалаеўскага прыхода ў Кляшчэлях. З 1804 г. Антон пераймае ад бацькі пасад настаяцеля. Тады таксама пачынае ўзначальваць Драгічынскі дэканат /благачынне/.

З 1810 г. а. Антон Сасноўскі становіцца духоўнікам святароў Бельскага дэканату. Яго аўтарытэт належна ацэньвае сам епіскап Булгак, узводзячы а. Антона ў годнасць каноніка Берасцейскай капітулы.

З 1820 г. а. канонік Антон Сасноўскі кіруе сваю энергію і талент на вызваленне Царквы ад залежнасці і ўплываў ордэна базыльянаў з віленскай правінцыі /з цэнтрам у манастыры Св. Тройцы/. Айцец Антон Сасноўскі выяўляе імкненні базыльянаў лацінізаваць уніяцкую царкву. Раскрывае сродкі, якімі карысталіся базыльяне ў барацьбе з "белым" духавенствам. Аказваецца, што сам мітрапаліт Булгак глядзеў на "белае" духавенства, як на "ніжэйшую расу". Таму іерархія не дбала пра адукацыю святароў, пра матэрыяльнае становішча духавенства і храмаў. Інтрыгі базыльянскага ордэна бачаць многія, а сам а. Антон стараецца змагацца за справу асветы і матэрыяльнага быту святароў.

У сваім родным, кляшчэлеўскім прыходзе а. Антон Сасноўскі вядзе барацьбу са злоўжываннем рымска-каталіцкага кліру. Аказалася, што каталіцкі святар пачаў прымушаць прыхаджан царквы плаціць дзесяціну касцёлу. У выніку інтэрвенцыі а. Антона Сасноўскага справа несправядлівай дзесяціны, праз "тайнага саветніка" Навасільцава дайшла ажно ў камітэт міністраў у Санкт-Пецярбурзе. Адначасова а. Антон клапоціцца пра свае прыхадскія школы, перадаючы ім падручнікі. Яго прыход становіцца прыкладам для іншых. Пісаў П. Баброўскі: "Кляшчэлеўскі прыход паводле ўпарадкаванасці быў тады адным з лепшых у рускай уніі, гаспадарка і садаводства там квітнелі, дзякуючы такому саліднаму супрацоўніку, якім быў Дамяновіч. Кляшчэлеўскія школы, упарадкаваныя Сасноўскім набылі вядомасць адпаведнай пастаноўкай у іх асветнай справы."

У 1826 г. у Кляшчэлях наступаюць змены ў царкоўнай арганізацыі. Паводле намераў а. А. Сасноўскага, які з 1825 г. быў ужо старшынёй Мітрапалічнай кансісторыі ў Вільні, прыход св. Юрыя ў Кляшчэлях далучаецца да прыхода св. Мікалая. Ва ўзбуйненым прыходзе служаць некалькі вікарных.

У сувязі з новымі абавязкамі /з 1825 г. дайшоў яшчэ пасад настаяцеля царквы св. Мікалая ў Вільні/, а. Антон Сасноўскі вельмі рэдка бывае ў Кляшчэлях. Утрымлівае аднак пастаянны лістоўны кантакт з духоўнымі ды супрацоўнікамі, асабліва з памянёным ужо Дамяновічам. Дзякуючы такім людзям, а. Антон мог быць спакойны за свой прыход.

Тым часам у Вільні праблемаў было ўдосталь. Землякі а. Антона, прафесары-падляшукі I. Даніловіч, М. Баброўскі апынуліся ў няласцы ўрада. Сасноўскі ўтрымліваў вельмі блізкія з імі кантакты; у іхнім крузе ўзнікла ідэя адраджэння дзяржавы ў гістарычных межах Вялікага княства Літоўскага.

У кастрычніку 1827 г. а. А. Сасноўскага спасцігла вялікае гора. На 27-м годзе жыцця памірае ягоны любімы сын, прафесар маральнага і пастырскага багаслоўя ў Віленскім універсітэце, настаяцель царквы ў Карэлічах, а. Платон Сасноўскі. Гэтая балючая страта, як пісаў П. Баброўскі, не спыніла актыўнага жыцця а. Антона. З карэспандэнцыі з таго перыяду відаць, "што ён не намерваўся пакінуць сваю пазіцыю ў г. Вільні да гэтай пары, пакуль не дачакаецца вырашэння пытання аб рэформе" /уніяцкай царквы - аўт./.

Як настаяцель Мікалаеўскай царквы ў Вільні а. А. Сасноўскі паказаўся ўмелым пастырам. У гэтым уніяцкім храме быў ужо ўведзены лацінскі абрад; а. Сасноўскі змагаўся за вяртанне грэчаскага, што яму і ўдалося. Ягоныя намаганні накіраваны былі таксама на арганізацыю духоўнага школьніцтва. Ён жа прапануе стварэнне Духоўнай акадэміі ў Полацку ды Епархіяльных духоўных семінарыяў.

Дзеянні а. Антона Сасноўскага сустракаюць непрыхільнасць уніяцкай іерархіі ды ордэна базыльянаў з аднаго боку і "власть имущихъ" з другога. Уніяцкі мітрапаліт лічыў непатрэбнай, а нават небяспечнай адукацыю прыхадскіх "рускіх" святароў; а гэты фактар, як вядома, пачынаў даводзіць паступова да матэрыяльнага і маральнага ўпадку царквы.

У лісце з 1828 г. скіраваным да епіскапа Галоўні, а. Антон Сасноўскі прадстаўляе драматычнае становішча, у якім апынулася уніяцкая царква ў пачатку XIX стагоддзя: "/.../ Зжалься, добры архіпастыр, над убоствам і беднасцю нешчаслівага духавенства! Зжалься над аберненымі ў руіны, спустошанымі, паваліўшыміся храмамі, дзе народ пазбаўлены малітвы, якую ён узносіў Богу аб сваіх патрэбах /.../".

Гэты ліст-заклік канчаткова адбірае а. А. Сасноўскаму магчымасць актыўнага ўздзейнічання на справы Літоўскай епархіі /з 1828 г. Віленскую і Берасцейскую епархіі спалучылі ў адну - Літоўскую/. Сасноўскі адыйшоў "у цень", але яго справа засталася. Сваімі пасля-доўнамі дзеяннямі спрычыніўся ён да выратавання уніяцкай царквы ад латынізацыі, даючы пасрэдна дарогу да яе вяртання ў Праваслаўе.

*/Працяг будзе/*

**Р. С. і М. С.**

## У ПАШКОЎШЧЫНЕ ВАРТА ПАКАЗАЦЦА

31 студзеня ў Пачатковай школе ў Пашкоўшчыне даў канцэрт калектыў "Маланка", які працуе, пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука, пры Бельскім доме культуры.

"Я думаю, што студзень 1993 года надоўга застанецца ў памяці жыхароў нашай ваколіцы, - адкрываючы канцэрт сказаў дырэктар школы Янка Добаш. - Гэта ўжо трэці, пасля менскага "Дзіва" і віцебскай "Грамады", беларускі калектыў у нас на працягу аднаго месяца".

Шкада, што зала ў школе малаватая, ледзь-ледзь змяшчала ўсіх ахвотных паслухаць свае родныя песні. На канцэрт з'явіліся, галоўным чынам, жыхары Пашкоўшчыны, Грэдалёў, Кошак, Тапчыкал - самага блізкага наваколля. Але былі і такія, хто зрабіў больш за дзесятак кіламетраў, каб пабачыць і пачуць "Маланку".

"Маланка" - калектыў адносна малады, але ўяўляе сабою далёка не дэбютны ўзровень музычнага мастацтва. Дзве выпушчаныя касеты - з народнымі песнямі і праваслаўнымі калядкамі - ды частая прысутнасць у беларускіх перадачах Беластоцкага радыё зрабілі "Маланку" папулярнай у народзе. Таму прыйсці на канцэрт нікога асабліва заахвочваць не трэба было.

Імпрэзу, супольна з бацькамі сваіх вучняў, сарганізаваў дырэктар Добаш. Транспартам дапамог войт Арлянскае гміны Міхал Іванчук.

Гаспадары ў падзяцы за канцэрт парупіліся аб надзвычай багатым пачастунку, падчас якога супольныя гульні працягваліся за поўнач. Пра такую гасціннасць варта, каб памяталі ўсе, каго будуць запрашаць у Пашкоўшчыну. Калі які калектыў будзе мець нагоду тамака паказацца, я, як адзін з удзельнікаў застолля, раю са шчырага сэрца - карыстаць. Тым больш, што гэты год можа аказацца апошнім для Пачатковай школы ў Пашкоўшчыне, у якой усяго 35 вучняў.

Хіба што школа апраўдае сэнс свайго далейшага функцыянавання, напрыклад, як цэнтр культурнага жыцця? Нешта пра гэта нават спадар войт намякнуў бацькам падчас банкету. Але рашэння давядзецца яшчэ некалькі месяцаў пачакаць.

**М. В.**
**Фота Славаміра Іванюка**



## З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**26-02-1989 г.**

Увечары - на сустрэчы беластоцкіх студэнтаў з Куранем /Мірановічы падмовілі/. - Руіна Польшчы прымушае ісці на згоду з рэжымам, каб не прападала айчына, etc. /.../ На маё запытанне пра пастаноўку праблемаў меншасцяў - адказаў вельмі агульна, з раптоўнай сухасцю, як бы забаяўшыся за сваю папулярнасць... Фактычна нічога не сказаў, толькі заўважыўшы ўпачатку: нацыянальныя меншасці гэтак жа ў бяспраўным становішчы, як і палякі. I далей ужо пра гэтую бяспраўнасць наогул у ПНР./.../.

**27-02-1989 г.**

Кастжэва з тае Нацыянальнай камісіі даслаў: "O prawie mniejszosciowym w Polsce" /адбітак з час. "Nowa Koalicja" № 5/1988/. /.../

Пазваніў Курань: трэба, каб нацыянальныя таварыствы вывесці з падлегласці МУСу... Папрасіў прабачэння за няўдалы ўчора адказ на маё пытанне.

Па-мойму: перапросіны - гэта не рызыка.

**05-03-1989 г.**

/.../ Беларускае жыццё ўсё мацней пульсуе, а я ў ім - дзякаваць Богу! - перастаю быць нейкай цэнтральнай фігураю /з'явіліся іншыя!/. Даўно абрыдла служыць кажнюткаму, хто толькі рачыў праявіць беларускія зацікаўленні. Трэба, перш за ўсё, рабіць тое, чаго ніхто за мяне не зробіць, - пісаць!

Калі знікае паліцэйшчына, праслед, знікае і маральная патрэба абароны, - у гэтым выпадку, нацыянальнага /яно, звычайна, пачынае быць/.

**06-03-1989 г.**

Антось Мірановіч пазнаёміў з ленінградскім беларусам, нейкім Нікалаевым; працуе ў шчадрынаўскай бібліятэцы. Галоўная тэма гутаркі, вядома: смерць Беларусі. Яе нацыянальная культура павісла між небам і зямлёю, не памірае і не жыве.

З савецкімі беларусамі цяпер не пагаворыш пра саму беларушчыну... Яны табе столькі жахаў нараспавядаюць пра лёс нацыянальнага, што і жыць не захочаш! А яшчэ так нядаўна - маўчалі або "аптымістычна" махлявалі.

**11-03-1989 г.**

Першы рэгулярны сход Беларускага клуба /на маёй кватэры/. - Туронак, Мірановічы, Латышонак, Вапы, Ляшчынскі, Каліна, Максімюк /12-15.30/. Даклад Туронка: "БССР у гадах 1919-1920". - Затым: праграма і статут Клуба /праект Латышонка/; дапаўненні і мадыфікацыі.

У агляд друку - "Ніва" ад 12-га - умантаваў я фразу пра ўзнікненне "Кантакта" і Клуба, што не спадабалася сябрам. Тлумачыў ім: трэба апераздзіць "чорную легенду", якая была б непазбежнай, як непазбежная ў грамадстве вестка аб узнікненні новага часопіса і арганізацыі. Дэканспірацыя была б тады толькі, калі б пранiклі да публічнага ведама персаналіі, дэталі. Зрэшты, у новай сітуацыі ў ПНР размываецца мяжа паміж т. зв. легальным і нелегальным.

**12-03-1989 г.**

На пасяджэнні Грамадзянскага камітэта Леха Валэнсы /у касцёле ля Жытняй у Варшаве/. Важнае мне; упершыню пабыў у так вялікай "кузні палітыкі". Бачыўся з Варашыльскім, але размова не адбылася. Затое - з Куранем, Міхнікам, Эдэльманам. /.../ - Б. Герэмак адказаў на маё пытанне, што ўрадавы бок, па-праўдзе, не рэагуе на пастулаты "Салідарнасці" наконт нармалізацыі становішча нацыянальных меншасцяў; крыху пацікавілася імі Хрысціянская унія, палітычны патэнцыял якой нават і не другарадны. - А прыватна ўжо дведаўся я ад Эдэльмана і Кураня, што асветныя пастулаты, фармуляваныя "салідарніцкай" Нацыянальнай камісіяй, маюць некаторыя шанцы, як і выхад грамадскіх таварыстваў з-пад кантролю МУСу.

Глуха пра беларускіх паслоў. Ды і наогул цэлы гэты Круглы стол не законччыца нейкім цудам, толькі дасць пачатак працэсу дэмакратызацыі жыцця ў краіне. /.../

*/Працяг будзе/*

## ЗАПРАШЭННЕ Ў КІНО

"Ніва" атрымала цікавае, незвычайнае запрашэнне - у кіно. Маладзёжная акадэмія і Польскае тэлебачанне арганізавалі прэс-паказ фільма "Goodbye Rockefeller". Прэзентацыя праходзіла ў Варшаве, у кіно "Люна" на вуліцы Маршалкоўскай.

Мяне, асабіста, больш зацікавіла такая форма рэкламы, чымсьці сам фільм, паколькі я ўжо некалькі гадоў паслядоўна адмаўляюся выдаваць грошы на нудную польскую кінематаграфію. Да таго ж, гэты фільм быў накіраваны да, значна за мяне маладзейшага, гледача. Аб паездцы вырашыла абяцанне арганізатараў вярнуць грошы за дарогу, што давала псіхічны камфорт - нават калі не будзе пра што пісаць, бюджэт "Нівы" ад гэтага не пацярпіць.

На месцы арганізатары прыемна пакаэталі маё самалюбства - усімі сіламі стараліся пераканаць саміх журналістаў, што вялікая ёсць моц прэсы. Запрошаных віталі ўжо ў дзвярах, накіроўвалі куды трэба, ахвотна, з добразычлівай усмешкай адказвалі на ўсе пытанні, раздавалі друкаваныя матэрыялы пра фільм, запрашалі на прэс-канферэнцыю, падчас якое таксама трымалі фасон - між гасцямі завіхаліся прыгожыя паненкі са скромным, але густоўным пачастункам. Усё дзеля добрага ўражання, дзеля рэкламы.

Мае сталічныя калегі пілі і елі на поўны рот, успрымаючы гэта, пэўна, як належнае ім. Затое я, правінцыяльны журналіст, адчуў сябе нямка пад уздзеяннем такога далікатнага, але станоўчага націску. Нават, каб фільм быў апошні хлам, дык пасля такога прыёму не выпадала б пісаць пра яго дрэнна.

На шчасце, "Goodbye Rockefeller" смеццем не аказаўся і можа спадабацца не толькі моладзі. Добрая, жывая была рэакцыя вучняў з некалькіх варшаўскіх пачатковых школ, якіх таксама запрасілі на прэм'еру. На падставе іх паводзін можна было сёе-тое меркаваць пра фінансавы поспех фільма.

Я думаю, што фільм папулярнасць будзе мець не меншую за "Называй мяне Рокефелер", прадаўжэннем якога з'яўляецца. Рэжысёр і адзін з аўтараў сцэнарыя, Вальдэмар Шарэк, якраз і рашыўся рабіць гэты фільм таму, што першы пабачыла ў кіно некалькі сот тысяч гледачоў /што, як на краёвую прадукцыю, з'яўляецца лічбай самавітай/.

Сюжэт фільма - я б назваў сенсацыйна-рамансавым - узбагачаецца ў крыху прыхарошаныя рэаліі пабудовы капіталізму ў Польшчы. Галоўныя героі, зразумела - маладыя людзі, з якімі могуць атаясамлівацца іх аднагодкі з другога боку экрана. Першае каханне, цікавая прыгода, хуткая акцыя, усё гэта, несумненна, павінна спадабацца. Творцы карысталіся праверанымі амерыканскімі кінематаграфістамі схемамі /можа аж занадта/: крымінальная інтрыга, хуткія машыны, прыгожыя дзяўчаты, каляровы свет. Глядзіцца гэта з прыемнасцю.

Фільм мае дзве, незалежныя ад сябе, версіі: для кіно і для тэлебачання /13 паўгадзінных серый/. У тэлебачанні пачнуць яго паказваць дзесьці ў красавіку, а ў кіно можна яго пабачыць ужо. Дадатковым заахвочваннем, каб схадзіць у кіно, ёсць конкурс, падрыхтаваны прадзюсерам. У адзін момант на экране відаць кадр, якому не адпавядае гукавая сцежка. Трэба гэтае месца вылавіць і, такім чынам, можна выйграць цікавыя ўзнагароды: тэлевізар, відэаапаратуру і падобнае.

Трэба сказаць, што пра рэкламную абалонку прадзюсер пастараўся добра. Рэжысёр прыцягнуў да супрацоўніцтва вядомых акцёраў: Пятра Франчэўскага /як заўсёды, геніяльны/, Віктара Збароўскага, Ежы Бончака, Магдалену Завадскую. Гэта, безумоўна, козыры фільма, як і спантанная, цікавая ігра маладых, але ўжо далёка не зялёных у фільмовым мастацтве, прафесіяналаў і аматараў.

Калі каго цікавіць, колькі такі фільм каштуе, дык інфармую - 5,5 мільярда злотых. Творцы лічаць, што і так абышоўся ён ім танна, бо падчас прадукцыі былі вельмі ашчаднымі, напрыклад, плэнэры, усе блізка Варшавы /гэта на доказ, што на прэс-канферэнцыі я не толькі еў ды піў, але яшчэ і ўважна слухаў/. Гэтая сума настолькі прамаўляе да майго ўяўлення і сэрца, што гатовы я яшчэ раз пайсці і заплаціць некалькі тысяч, каб хаця часткова кампенсаваць кошты прадзюсеру. А можа выйграю які відэмагнітафон /бо за першым разам ніякай асінхроніі паміж бачаным і пачутым я не заўважыў/?

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



*Кадр з кінафільма "Goodbye Rockefeller".*

## КАМУНІСТЫЧНАЯ МАНА

У „Ніве" н-р 4 ад 24 студзеня г.г. у артыкуле „Камунізм і вучоныя" М. Панфілюк абвінавачвае мяне ў пісанні камуністычнай маны. Піша ён: „Ляпей было б замест камуністычнай маны нічога не пісаць, а не сёння тлумачыцца, што не было іншага выхаду".

Паважаны М. Панфілюк! Вы ж самі карыстаецеся камуністычнымі метадамі, абвінавачваючы мяне без ніякага доказу. Але цяпер гэта так лёгка не пройдзе. Прашу канкрэтна назваць, дзе і калі я пісаў камуністычную ману. Дайце хоць адзін прыклад. Інакш усе Вашыя абвінавачванні — гэта адна выдуманая Вамі хлусня, г.зн. камуністычная мана. Вы ўсюды бачыце камуністаў, а самі 20 гадоў былі актыўным членам ПАРП і толькі нейкія сваркі з мясцовымі ўладамі прымусілі Вас выйсці з яе радой. Я не помню, каб Вы калісь у „Ніве" крытыкавалі камуністычную ўладу ці, як Вы пішаце, камуністычную бюракратыю. Я памятаю Вашыя кароткія нататкі ў „Трыбуне чытачоў" на тэму каваля, дрэў ля шашы, калядак, школы ў Дубічах-Царкоўных і т.п. Больш нічога. Праўда, я не ведаю, што Вы пісалі ў 1986-1988 г.г., калі я жыў у Індыі і не чытаў „Нівы". Тады цэнзура ўжо не была такая вострая і можа нешта прапусціла. Я і сёння ахвотна прачытаў бы Вашы геройскія артыкулы супроць камунізму. А трэба сказаць, што ў часы камунізму крытыка гміннай бюракратыі не была геройствам. Сталін нават любіў крытыку ўсіх іншых, толькі не яго асобы. Любіў ён таксама даносы на ўсіх чыноўнікаў ніжэйшых слаёў улады. А тое, што крытыкаваныя бюракраты маглі за гэта паціху адпомсціць, гэта таксама праўда. Не ведаю, за што Вас клікалі „на споведзь" у камітэт партыі ў Дубічах-Царкоўных, але напэўна не за нататкі ў „Ніве".

Калі памянялася ўлада ў Польшчы, толькі тады Вы пачалі атакаваць камунізм і камуністаў у „Ніве" і ў польскіх газетах, як ніхто з беларусаў. Але тады Ваша апалогія „Салідарнасці" не была ўжо геройствам, а хутчэй падхалімствам. А цяпер я чытаю, што „Салідарнасць" ужо Вам не падабаецца, а сваю сімпатыю перакінулі Вы на „Салідарнасць-80". Так хутка мяняеце погляды? Цікава, якая „сімпатыя" ў Вас будзе ў наступным годзе?

У артыкуле „Камунізм і могілкі" я не пісаў, што нельга было крытыкаваць бюракратаў сярод мясцовай улады пры камунізме. Я пісаў толькі, што нельга было крытыкаваць Савецкі Саюз. Гэта дзве розныя справы. Я ў 1969 годзе выслаў у „Ніву" верш „Дзень у Ленінградзе", дзе ў канцы верша напісаў:

*Праходжу парк па чысценькіх алеях,*
*Навокал бавяцца вясёла вераб'і.*
*Вось Мойка праплывае чорным змеем,*
*За мостам „Спас" чароўны „на крыві".*
*Відаць на храме дошкі рыштаванняў,*
*З царквы здымаюць векавую гразь.*
*Калісь шэдэўр не мог знайсці прызнання,*
*Цяпер памылкі сталі выпраўляць.*

І гэты верш не быў дапушчаны да друку. А, здаецца, нічога дрэннага ў ім не было. Але царква, „Спас на крыві" — на месцы забойства цара Аляксандра II, была пасля 1917 года закрытая і запушчаная, бо там зрабілі нейкі склад. І толькі ў часы Брэжнева пачалі яе памалу рэстаўрыраваць. А гэтага нельга было пісаць. Я мог бы назваць і іншыя падобныя прыклады, але хоціць адзін. А Вы абвінавачваеце А. Барскага, што ён не крытыкаваў Савецкага Саюза, абзываеце яго „бязбожнікам". Пішаце, што Вы, — веруючы хрысціянін, а ці Вы чыталі Евангелле паводле Матфея, гл. 5, в. 22. Там напісана: „Хто скажа (брату свайму) „бязбожнік" — падвяргаецца кары геены вогненнай". Гэтыя словы сказаў сам Ісус Хрыстос, а братам ён лічыў кожнага чалавека. Што Вы на гэта? А Барскі Вас ігнаруе і не адказвае на Вашыя паклёпы. Не ведаю, ці гэта добра, але гэта яго справа. Ён вядзе сябе, як слон у вядомай байцы Крылова, а Вы думаеце, што Вы маеце рацыю, бо ён Вам не адказвае. Перш чым каго абвінавачваць у нейкіх справах, трэба ўдумацца і праверыць, ці гэта праўда, і ці не зробіце гэтым крыўды чалавеку. А толькі потым пісаць.

А цяпер, як вельмі веруючаму чалавеку, які часта паслугоўваецца цытатамі з Бібліі, прапаную цытату напісаную святым апосталам Паўлам у пісьме Рымлянам, гл. 13, в. 1,2: „Усякая душа хай будзе пакорная вышэйшым уладам, бо няма ўлады не ад Бога, існуючыя ўсе ўлады ёсць Богам устаноўлены. Таму хто выступае супраць улады, выступае супраць Боскага ўстанаўлення, а супраціўнікі самі выклікаюць на сябе асуджэнне". Св. Павел пісаў гэта ў 55-56 гадах, калі ў Рыме панаваў Нерон, калі ўлада была язычаскай, не лепшай ад пазнейшай камуністычнай. Што Вы на гэта скажаце?

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**



### ПАВАЖАНЫ СПАДАР ГРЫША МАРОЗ,

здзіўляе Вас, што я пачаў пісаць у „Ніву", а раней быццам бы пляваў на яе, праклінаў, проста нагамі таптаў. А бачылі Вы гэта? Добра ведаеце, што нават тады, калі я крытычна ацаняў змест „Нівы", чытаў яе пастаянна і намаўляў іншых, каб выпісвалі гэты наш адзіны тыднёвік. Разносіў яго 150 экземпляраў. Але ці Вы можаце сабе ўявіць такую сітуацыю? Выказваўся я крытычна, бо хацеў, каб нешта змянілася, а гэта не абазначае ніякай нянавісці, а заклапочанасць пра тое, што лічыў і лічу сваім. А Вы, паважаны Грыша Мароз, калі аціхла ў „Ніве" камуністычная агітацыя, Вы перасталі не толькі пісаць ёй, але нават чытаць. Маглі ж прапанаваць свае матэрыялы, змагацца за свае ідэі, але Вы проста здрадзілі.

Як ведаеце, я чалавек адкрыты, тое што думаю, тое і гавару, але не думаю, каб быў больш шкодны за Вас. Я „Ніву" перапрасіў за ўсё, што магчыма і дрэннае пра яе раней сказаў. Але праклінаў тады ўсялякіх крывадушнікаў, якія што пару месяцаў мянялі свае погляды і не ведалі, хто будзе верхам.

Пытаеце, ці я перахрысціўся. Так, я вялікі грэшнік і таму ва ўсіх прашу прабачэння. Вам таксама прыдалося б больш пакоры перад Богам і людзьмі.

Разумею, што ніколі Вам не будзе падабацца тое, што я пішу. Ваш ліст нічым мяне не здзіўляе, толькі чаму не можаце пагадзіцца з рэчаіснасцю і тым, што людзі могуць мець розныя погляды.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

* * *

Прачытаў я ліст Грышы Мароза ў 6 нумары "Нівы", у якім лічыць ён сябе вялікім дзеячам і патрыётам, чалавекам, які не мяняе сваіх поглядаў, не пхаецца туды, куды "вецер вее". Паважаны спадар Мароз, паколькі я Вас ведаю, дык мяркую, што Вы вельмі шкадуеце камуну, а тут раптам віншуеце "Ніву" з Ражджаством Хрыстовым. Ці выпадае гэтае рабіць камуністу? Не ведаю, чаму Вы прычапіліся да Мікалая Панфілюка. У маёй вёсцы Тафілаўцы, дзе ўсе яго добра ведаюць, ніхто не чуў, каб ён пляваў і праклінаў "Ніву".

Наадварот, хваліў ён газету і намаўляў людзей, каб яе выпісвалі. Робіць гэтае ён і сёння. Не ведаю, ці ёсць яшчэ дзе-небудзь такі пісьманосец, зацікаўлены распаўсюджваннем якой-небудзь газеты. А калі крытыкаваў і праклінаў нават, дык бараніў ён нейкай справы, асуджаў фальш і крывадушнасць. І меў ён права гэта рабіць.

**УЛАДЗІМІР ХІЛІМАНЮК**
**Тафілаўцы**

* * *

**Дарагая „Ніва"!,**
**Дарагі Грыша Мароз!**

Я жыхар вёскі Тапаркі, якую абслугоўвае Мікалай Панфілюк з Дубіцкай пошты. Нядаўна спадар Мароз напісаў у „Ніве", як ён хваляваўся паступкамі Мікалая Панфілюка.

Хачу коратка паясніць, што М. Панфілюк ніколі не пляваў, не праклінаў, не таптаў нагамі „Ніву". Ён вельмі любіць нашу газету, заўсёды стараецца знаходзіць новых чытачоў у сваім раёне і кожную пятніцу развозіць каля 70 экземпляраў „Нівы".

Праўда, некалькі гадоў таму ён меў канфлікт са старой рэдакцыяй, якая не друкавала ўсіх яго крытычных слоў у адрас бальшавізму. Але гэта іншая справа. М. Панфілюк не памяняў сваіх поглядаў.

Можа нейкім чытачам і не падабаюцца ягоныя вострыя артыкулы?

Паздраўляю ўсіх працаўнікоў „Нівы"!

**СЦЯПАН МРУГ**



### ЧАСТКА XXX

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Размовы з людзьмі як з Польшчы, так і з Рэспублікі Беларусь выразна мяне ўзбагачаюць. Я не сказаў бы, што дагэтуль не быў мне вядомы агульны кірунак палітычнага мыслення беларусаў і ў гэтым аспекце іх выказванні па сутнасці не папаўняюць маіх ведаў. Аднак даведваюся многіх новых фактаў і здарэнняў. Галоўнае ўзбагачэнне праяўляецца перад усім у сутыкненні з народнымі формамі рэляцыі і аповяду. Апавядальны, тыпова фальклорны стыль выказванняў размоўцаў, індывідуальныя рысы гутарак, а часцей за ўсё гавэндаў за кожным разам з'яўляюцца для мяне інтэлектуальнымі нечаканымі прыгодамі. Апрача гэтага маем тут дачыненне з высокаякаснымі пасведчаннямі характару народнага мыслення ў акрэсленай гістарычнай эпосе. Зусім магчыма, што тыя людзі, якія з так глыбокім крытыцызмам адносяцца да апошніх капіталістычных перамен, праз некалькі гадоў зменяць свае погляды ў гэтай справе. Зразумела, што станецца так толькі тады, калі жыццё палепшыцца. Калі не, дык людзі астануцца пры сваіх сённяшніх поглядах і доўга яшчэ будуць паўтараць: „А я не гаварыў? А што я гаварыў? Я ведаў, што так будзе!" Аднак не будзем займацца такога тыпу футуралогіяй. Абмяжуемся да сцвярджэння, што цытаваныя мною выказванні маюць характар як бы навел з выразнымі літаратурнымі ўласцівасцямі, якасцямі і каштоўнасцямі.

Сёння прагну прывесці выказванне прыблізна саракагадовага настаўніка беларускай мовы з-пад Пружан, які выразна ўцешыўся, калі я сказаў, што жыву ў Польшчы ў адлегласці трыццаці кіламетраў ад Гайнаўкі.

„То мы з вамі суседзі, я ж з-пад Пружанаў, а з Пружанаў у Гайнаўку, калі б не было дзяржаўнай мяжы, то можна было б і пяшком ісці. Пытаеце, што ў нас робіцца з гэтымі ўсімі пераменамі і з увядзеннем капіталізму. Ну, адносна незалежнасці Беларусі, то мушу сказаць, што я падтрымліваю яе і рукамі, і душою, і сэрцам. Нарэшце з палёгкай уздыхнулі настаўнікі беларускай мовы. Былі мы ў страшэнным загоне. Дырэктары школ і школьныя ўлады трактавалі нас амаль як нікому непатрэбен элемент. Настаўнікі рускай мовы не раз нас крыўдзілі і абражалі. Захоўваліся як паны ў адносінах да нявольнікаў. І дзе ж усё гэта дзеялася? Не ў Тамбове, ні ў Волагдзе, але на нашай роднай беларускай зямлі. Цяпер стала па-другому. Праўда, школамі наогул кіруюць тыя, што і раней людзі, але ўжо не асмельваюцца яны кпіць ні абражаць настаўніка беларускай мовы. Баяцца! Найбольш балючая справа, то пастава звычайных людзей, бацькоў дзяцей. Тыя нікога не баяцца і нярэдка так як і пры СССР гавораць, што беларуская мова іх дзецям непатрэбная. Многія з іх гавораць, што вернецца зноў добра Савецкі Саюз і тады не будзе патрэбная беларуская мова. Аднак і тут многа мяняецца. Нават сярод простых людзей усё больш такіх, якія кажуць, што дзеці павінны ведаць беларускую мову і ёю паслугоўвацца. Здараюцца і першыя выпадкі канфліктаў паміж бацькамі і дзецьмі, калі дзеці насуперак волі бацькоў праяўляюць беларускую свядомасць і ахвотна вывучаюць беларускую мову.

Ну, а што датычыцца розных беларускіх партыяў, то мне здаецца, што калі б сягоння адбываліся выбары ў парламент, то ў нас толькі былыя камуністы маглі б іх выйграць. Я асабіста не ведаю, чаму Пазняк так моцна імкнецца да выбараў. Не магу сказаць, як гэта было б па ўсёй Беларусі, але мне здаецца, што ўсё грамадства думае падобным чынам. У нас Беларускі народны фронт не мае ніякіх шанцаў. Вельмі моцна падарваў ён свой аўтарытэт тым, што хацеў адміністрацыйным чынам мяняць праваслаўную рэлігію і што хоча рэфармаваць гаспадарку ў поўным адрыве ад супрацоўніцтва з Расіяй. Мне здаецца, што БНФ то прайграў бы ў нас сягоння нават больш рэзка, чым Саюдзіс у Літве. Не ведаю, ці ўвайшоў бы ў Вярхоўны Савет і Пазняк; думаю, што не. А гэта было б вельмі дрэнна, бо вядома, што Пазняк і БНФ адыгралі вялікую ролю ў тым, што беларуская мова стала дзяржаўнай. А яго роля ў справе выяўлення злачынстваў Сталіна ў Курапатах? Гэта ж ён усё адкрыў і абнародаваў. Але трэба сказаць, што Пазняк умее не толькі бараніць праўду, але і шкодзіць сабе. Ну, навошта яму было гаварыць, што трэба вешаць камуністаў? Хто ў нас хоча бачыць вісельніцы? Ніхто! Тым болей, што практычна амаль у кожнай сям'і быў адзін або некалькі камуністаў. Часта з яго б'е нянавісць, а гэта людзям у нас не падабаецца. Думаю, што такі чалавек, як Пазняк, вельмі ў палітычным жыцці патрэбен. Калі такіх не будзе, то зноў паявіцца нейкі варыянт сталінізму. Гляньце на захад, чаму там такое нармальнае жыццё? Таму, што ёсць апазіцыя; без яе раней ці пазней вырас бы таталітарызм. І ў нас яна патрэбна, калі хочам быць еўрапейскай дзяржавай з нармальным грамадствам і нармальнай палітычнай сістэмай.

Для народных мас, аднак, найважнейшы быт. Трэба сказаць, што сёння жывецца намнога цяжэй, чым жылося пры папярэдніх камуністычных урадах. У вас таксама няма вялікага мёду, калі два з паловай мільёна чалавек пазбаўлены працы. Для мяне адраджэнне беларускасці найважнейшае. За яго я гатоў ісці на любыя ахвяры. Але такіх, як я, пакуль што, нямнога. Сацыялізм у дваццатыя гады адрадзіў беларускасць, але пасля забіў яе бязлітасна. Калі капіталізм давядзе Беларусь да рэнесансу, дык хай будзе ў нас капіталізм."

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЖУРАЎКА АБАРАНЯЕЦЦА

Рыба не бралася.

- Хочаш жураўля ўбачыць? - спытаў у мяне сусед, стаміўшыся, як і я, глядзець на нерухомы паплавок.

- Жураўля? А што? Гняздуецца тут?

Мужчына паказаў рукой:

- За лесам невялікае балотца. Там і жыве. А сюды ў гэты час прылятае гарох дзяўбці. Пайшлі!

На грудку, дзе растуць дзве маладыя бярозкі, відзён ладны лапік гароху. Мы адышліся ад берагу і схаваліся ў кустоўі. Крыху пасядзелі на траве.

- Вунь ён, жураўка!

У чыстым блакіце з'явілася цёмная кропка. З кожнай хвілінай яна набліжалася да нас. Гэта сапраўды быў шэры журавель. Ён апусціўся на дол метраў за дваццаць ад нас, пакруціў шыяй і рушыў у гарох.

Але ласаваўся жураўка нядоўга. Наляцелі, хрыпата закаркалі вароны. Адна спікіравала на птушку, ударыла дзюбай у спіну. Жураўка ўзлящеў. Вароны не адставалі, дзяўблі птушку, шчыпалі за бакі. І раптам жураўка крутнуўся, дагнаў самую назойлівую і дзеўбануў так, што тая спалохана каркнула і ўпала на зямлю. Дагнаў яшчэ адну і пачаў калашмаціць. Астатнія ўмомант разляцеліся хто куды. А жураўка спакойна пакіраваў да лесу.

**ІВАН ГАЛУБОВІЧ**



Фота Петруся Пракопчыка

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

- Ну што, адрамантаваў твой тата гадзіннік?
- Цэлы вечар сядзеў над ім.
- Дык што, ходзіць?
- Не. Але зязюля тры разы выглядала з яго і ў нас пыталася, колькі часу.

* * *

- У нашага дзеда такі нос, што на ім можа змясціцца пяць вераб'ёў.
- Ну ты і выдумаў!
- Ну, можа трошкі і дадаў. Праўда, апошні стаіць толькі на адной назе.

* * *

- Як вас завуць? - пытаецца прафесар студэнта на экзамене.
- Сімончык Ян.
- А чаму ж вы смяецеся?
- Я рады, што на першае пытанне я адказаў правільна.

*ЯНКА ДАРОЖНЫ*

**ТЫСЯЧУ ЛІР**

- Тата, ты не можаш даць мне тысячу лір? - пытаецца Тото ў бацькі.
- Не.
- Дзяцей кожны хоча мець, - прабурчаў хлопчык, - але так, каб гэта нічога не каштавала!

**БЕЗ ПАМЫЛАК**

- Тваё хатняе заданне выканана без памылак, - кажа настаўніца, правяраючы сшытак вучня. - Скажы, Тото, толькі сумленна, хто дапамагаў твайму бацьку?

☞ *Працяг на стар. 10*

## БЕЛАРУС, ЧЫЛІЕЦ

Раніцою 23 траўня 1884 года на станцыі Сант'яга, сталіцы Чылі, вялікі натоўп людзей праводзіў старога мужчыну. Гучалі крыкі: "Віва, Дамейко!" А пасля аркестр зайграў чылійскі нацыянальны гімн...

Праводзілі з такім гонарам нашага земляка Ігната Дамейку, які пасля 46 гадоў жыцця ў Чылі намерыўся пабачыць Беларусь. Амаль паўстагоддзя настаўнік, прафесар, рэктар сталічнага універсітэта дон Ігнацыо вучыў і выхоўваў геолагаў, мінералогаў, вучоных.

На муле прыехаў выпускнік Віленскага універсітэта, удзельнік паўстання 1831 года, дыпламант парыжскай Горнай школы Ігнат Дамейка ў Чылі, прыехаў на чатыры гады... У гімназіі горада Какімба наш зямляк зарэкамендаваў сябе выключным педагогам, заваяваў давер вучняў, адзін з якіх знайшоў пасля багатае радовішча срэбра і назваў яго "Копі Дамейко". Сціплы настаўнік прапанаваў ураду рэспублікі праект рэформы чылійскіх школ і універсітэта, які да гэтага выконваў толькі нагляд за школамі. Лекцый там ніякіх не чыталі. Нацыянальны інстытут, гімназія, універсітэт сталіся такімі, якімі іх хацеў бачыць Дамейка. Праз 15 гадоў жыцця ў Чылі нашага земляка абралі рэктарам абноўленага універсітэта. Некалькі тэрмінаў запар выбіралі яго на гэтую пасаду, ён заслужыў ганаровае званне "Вялікі асветнік". У гонар Дамейкі быў адліты залаты медаль. Палата дэпутатаў парламента рэспублікі прызначыла яму пенсію 6000 піястраў штогод.

Але ніякія багацці не маглі ўтрымаць яго, каб не пабачыць Радзіму, дзе царскія ўлады ўсё яшчэ лічылі Дамейку дзяржаўным злачынцам. У 1885 годзе сусветна вядомага грамадзяніна Чылі не маглі не пусціць у родную Мядзвядку, што непадалёку ад Міра...

**ЗДЗІСЛАЎ СІЦЬКО**

## БАБЧЫН МАТУЗОК

Бачу, як малая ўнучка мая Зойка ладзіцца сама сабе занятак.

Узяла даўгі бабчын матузок, які вісеў на спінцы крэсла, і доўгадоўга яго прымервала. То да крэсла, то да стала. Паўтаралася гэта некалькі разоў. Пасля малая спынілася і пацягнула крэсла на сярэдзіну пакоя. Матузок павесіла на спінку.

Праз колькі хвілін яна ўзяла другое крэсла і паставіла яго так, што спінкі крэслаў датыкаліся адна адной. Абышла крэслы, прыглядалася нейкі момант. Потым іх трохі рассунула. Узяла матузок. Нешта прымервала. І ўрэшце пачала даволі хутка звязваць абодва крэслы матузком.

Гэта па яе, Зойчынаму, уяўленню - цягнік. Садзіцца малая на адно з крэслаў і пачынае тузаць напяты матузок:

- Паехаў, паехаў...

Вочы ў малой шырэюць, твар зззяе, уся яе істота напоўнена задаволенасцю.

А я гляджу і маўчу. Маўчу і пазіраю, як малая едзе. Хвала табе, бабчын матузок, што дапамог прыдумаць гульню.

**ПАВЕЛ КАВАЛЁЎ**

## Вершы Віктара Шведа

**БАБУЛІНЫ МАРШЧЫНЫ**

Бабуленька кажа з жалем:
- Ужо я старая,
Твар маршчыны пааралі,
Галава сівая...

Унук бабе праз хвіліну
Раіць асцярожна:
- Можа, ўсе твае маршчыны
Выпрасаваць можна?

**МАЛЫ ХУЛІГАН**

На калідоры малыша рука
Ніяк не дасягае да званка.
І раптам нейкі незнаёмы
Прыходзіць з дапамогаю малому.

І нечакана зазваніў званок.
- Дзякую, - сказаў малы сынок. -
Я уцякаю хуценька цяпер,
Але вас - хіба зловяць за каўнер!

**НА ЎРОКУ ЗААЛОГІІ**

- Па чым пазнаць век куркі? -
Спытаў настаўнік Юрку.
Выручыў Юрку Фома:
- Дык па зубах, вядома.

Настаўнік паясняе:
- Курка ж зубоў не мае.
- Але ў нас ёсць зубы, -
Пачулі ад Якуба.

**ЁСЦЬ ВЫЙСЦЕ**

Усе ўжо заснулі,
Не спіць толькі Уля.
Крычыць: - Бабка Верка,
Падай мне цукерку!

Бабуля ўздыхае:
- Я выйсця не маю!
А на гэта Уля:
- Дзверы ж не замкнулі!

**БУДУЦЬ ПТУШКІ НА АБЕД**

- Што ты нам, матуля, варыш?
Адкажы як след.
- Будуць галубцы, Барбара,
Сёння на абед...

Уваходзіць у міжчасе
З панадворка дзед.
- Будзем есці, - кажа Бася, -
Птушкі на абед!

**ЖЫВЕ Ў ГАДЗІННІКУ ЗЯЗЮЛЯ**

Спыталіся ў школе
Назваць птушку тую,
Якая ніколі
Гнязда не будуе.

- Ды гэта ж зязюля, -
Адказвае Саша, -
Яе ж упіхнулі
Ў гадзіннікі нашы.

**КАТОК З'ЕСЦЬ СУПОК**

Сядзіць Міхась над поўнай міскай,
Есці ніяк не хоча.
Пад руку тыцкае кот пыскай,
Глядзіць Міхаську ў вочы.

Здаецца, просіць ён Міхаську:
- Калі такі ляніві,
Дазволь мне з'есці, калі ласка,
А буду я шчаслівы.

**РУПЛІВЫЯ РУЧАНЯТЫ**

У дзяўчынкі Наты -
Дзесяць памагатых.
Ручак кожны пальчык -
Памочнік Натальцы.

Спорыцца дзіцяці
Праца ў роднай хаце.
Руплівыя ў Наты
Заўжды ручаняты.

*СПІРЫДОН ВАНГЕЛІ*

## ТРАЯН

- Траян, - сказала мама, - налі ў бочку вады.

Выліў Траян у бочку вядро. Потым яшчэ адно... Цяжкавата цэлую бочку напоўніць.

- А вось гэта вядро налівае сястра Алімпія, - сказаў сабе Траян, - і - буль-буль - пацякла ў бочку вада.

- А гэта вядро налівае брат Яша.

Наліў Траян і за Грую, і за Мірчу. Вось і поўная бочка.

- Добра, што ў мяне шмат сяброў. Без сяброў я не справіўся б.

## МАМІНЫ ВОЧЫ

- Дзеці, хто падарыў нам сонца? - спытала настаўніца.
- Мама.
- А якое яно, сонца?
- Прыгожае.
- Цёплае.
- Залатое.
- А вочы ў мамы якія?
- Блакітныя, - сказаў Родзік.
- Чорныя, - адказаў Келін.
- Карыя, - падскочыла Габрыэла.
- Зялёныя, - сказала Юля.

Толькі Богдан прамаўчаў, апусціў галаву. Не ведае ён, якія вочы ў мамы.

- Сумныя ў мамы Богдана вочы, - сказала Цінкуца.

## ЦІНКУЦА

Вось і канікулы!

Дзеці катаюцца з горкі на санках.

А Цінкуца ў школу ідзе.

- Добры дзень, - сказала яна настаўніцы. І пайшла дадому.

На другі дзень снегу выпала яшчэ больш.

- Ты куды, Цінкуца?
- У школу.

Зазірнула дзяўчынка ў настаўніцкую.

- Добры дзень!
- Цяпер жа канікулы, Цінкуца. Ты, відаць, па кніжкі прыйшла? - запытала настаўніца.
- Не, проста вас зайшла праведаць. Засумавала.
- Дзякуй, Цінкуца, - усміхнулася настаўніца, - і я па табе засумавала.

## ДЫНЯ

Ёрг прынёс у клас дыню і схаваў яе пад парту.

- Пахне дыняй, - сказала Родзіка.

- Гэта ад мяне, - прызнаўся Ёрг. - Я дома дыню еў.

Раптам - "бзз!" - з парты вылецела пчала, а за ёй - "бззз!" - яшчэ адна.

Родзіка глянула пад парту і ўбачыла дыню.

- Ты ўжо нікому не кажы, - збянтэжыўся Ёрг, - давай разам яе з'ямо.

- Дзякуй, дружа, - усміхнулася Родзіка. - Я ўжо дома дыню ела.

*З малдаўскай пераклала*
*ТАМАРА ТАРАСАВА*

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

*Працяг са стар. 9*

### ГРОМ І БЛІСКАВІЦА

- Чаму мы спярша бачым бліскавіцу, а потым чуем гром?
- Таму, сеньёр настаўнік, што вочы ў нас спераду!

### ЦАЦКА

Бацька Тото вяртаецца дадому. Маці злосна кажа:

- Вітаю цябе! Як гэта ты надумаўся купіць нашаму сыну такую цацку, якая не б'ецца?
- Няўжо ён яе разбіў?! Дробязь, гэта ж не так страшна...
- Калі б гэта было так, але ён гэтай цацкай ператочыў усю мэблю, шыбы, люстэркі і ўвесь наш посуд!!!

### ЗАСУМНЯВАЎСЯ

Шасцігадовы Тото стараўся зразумець, што гаворыць яго васьмімесячны брацік. Нарэшце спытаў у маці:

- А ты ўпэўнена, што ён - італьянец?

### ЯБЛЫК

- Хлопчык, ты што робіш на дрэве ў чужым садзе?
- Бачыце, сеньёр, адзін з вашых яблыкаў упаў на зямлю, і я хачу яго павесіць на месца...

*В. БАБЕЙ*

*ІВАН КУРБЕКА*

## ЛАГАРЫФЫ

Літару
Адкінь
Альбо
  дадай -
І загадку
Разгадай.

* * *

Слухай мяне,
Братка:
Літару
Ў палатку
Акуратна ўкінь -
І горнарабочы
З'явіцца на вочы,
Падзямелля сын.

* * *

Мы з ім быццам радня.
Ты без нас ані дня.
Я ваду падаю,
Ён жа
Ў памяць тваю
Веды,
Мудрасць нясе.
І нас любяць усе.
Ты праз нас
Без адрыву ад хаты
І душою,
І целам
Багаты.

* * *

Геаметрычнае цела
Толькі да зычнай
Прымкне -
Добразычліва
І смела,
Дружа,
Цябе крытыкне.

* * *

У мяне -
Нагі чатыры,
На маім
Сядзіш ты карку.
"У" як трачу,
Біўні-пыры,
Хобат мой -
У заапарку.

* * *

Жыллё для жывёл
Пад зямлёю
Запоўніцца можа
Вадою
І возерам казачным
Стаць,
Як літару
Толькі дадаць.

(кран-экран, шацёр-шахцёр,
услон-слон, нара-Нарач, шар-шарж)

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# АЛОЭ

*(Aloe arborescens Mill.)*

Алоэ — гэта вечназялёная расліна, якая расце на сухой, пясчанай і каменістай тэрыторыі ўсходняй і паўднёвай Афрыкі. Садзяць яе ў многіх краінах з гарачым кліматам, а ў краінах памяркоўнай зоны, напрыклад, у Польшчы, вырошчваюць яе ў хатніх умовах.

Алоэ ў натуральным стане дасягае вышыні 5 метраў, а калі вырошчваецца ў Польшчы і суседніх краінах, у хатніх умовах, дык не перавышае 1 метра. Лісце алоэ мясістае, зялёнае, быццам пакрытае воскам. У хатніх умовах алоэ цвіце толькі ў выключных выпадках. Кветка аранжавага колеру, выглядае як пучок дробных кветак. Насення ў Польшчы не дае.

У лячэбных мэтах лісце алоэ не абразаюць нажом, а абрываюць. Свежае лісце (*Folium Aloe recens*) павінна зрывацца з прынамсі трохгадовай расліны і можа перахоўвацца ў халадзільніку 10-15 дзён. З лісця вырабляюцца вадкія ці сталыя ўнутраныя прэпараты, а таксама ін'екцыйныя растворы і розныя знешнія прэпараты ды простыя лекі, якія атрымліваюцца ў хатніх варунках. У краінах, дзе алоэ расце ў натуральных варунках, вырабляюць з яго густы сок *Cap-Aloe*, які з'яўляецца моцна прачышчаючым сродкам.

Ужо 50 гадоў таму назад славуты рускі хірург Уладзімір Філатаў (1875-1966) сцвердзіў, што водныя экстракты з лісця алоэ карысна ўплываюць пры некаторых хваробах вачэй. Пазней было выяўлена, што алоэ аказвае ўплыў на цэлы арганізм, паколькі ў ім знаходзяцца спалучэнні тыпу біягенных стымулятараў. Сёння вядома, што алоэ мае ўласцівасці бактэрыябойчыя, супрацьзапальныя, супрацьболевыя, рэгенеруючыя слізістую абалонку і скуру, тармозячыя развіццё некаторых відаў рака, а перш за ўсё імунастымулюючыя, гэта значыць, пабуджаючыя абаронныя механізмы арганізма чалавека.

Хатнія прэпараты з лісця алоэ, якія падаюцца ў рэкамендаваных ніжэй дозах, не выклікаюць шкоднага дзеяння. Аднак жа *алона* (густы сок на прачышчэнне) можа быць вельмі небяспечнай для цяжарных жанчын. Нельга яе прымяняць у гэты перыяд.

**Віно з алоэ.** Абрываюць некалькі большых лісткоў з прынамсі трохгадовай расліны, мыюць іх, абсушваюць і пасля гэтага трымаюць у халадзільніку дзён 7-10. Тады бяруць 50 дэкаў лісця, абразаюць іх бакавыя калючкі, рэжуць лісце на некалькісантыметровыя кавалкі, перамолваюць у мясарубцы, дадаюць да алоэ паўлітра чырвонага вінаграднага віна, мяшаюць, дадаюць 50 дэкаў мёду і, старанна ўсё гэта перамяшаўшы, трымаюць у зачыненым посудзе і ўпоцемку 3-5 дзён. Атрыманае віно працэджваюць праз густое сіта, разліваюць у бутэлькі і трымаюць у халадзільніку.

У першы тыдзень прымаюць гэты лек тры разы ў дзень па чайнай лыжачцы, у наступныя 3-4 тыдні тры разы ў дзень па сталовай лыжцы, у далейшыя 3-4 тыдні па чайнай лыжачцы тры разы ў дзень (заўсёды на гадзіну перад ядой). Лек прымаюць на працягу 2-3 месяцаў, пасля чаго робяць перапынак на 1-2 тыдні і цыкл паўтараюць.

Вядома шмат падобных рэцэптаў. Прапорцыі бываюць розныя. Часамі дадаюць спірт ці большую колькасць віна. Віно з алоэ прымяняюць пры многіх хваробах, асабліва пры язве страўніка і дванаццаціперснай кішкі, а таксама пры язвах на прамой кішцы.

**Напар з алоэ.** Падрыхтаванае, як і раней, лісце алоэ рэжуць дробна, кладуць у тэрмас, дадаюць па лыжачцы лісця шалфею і кветак наготкі, заліваюць паўтара літрамі кіпячонай вады, закручваюць тэрмас і пакідаюць на гадзіну.

Напарам палошчуць рот і горла, прамываюць нос, ім падмываюцца, яго прыкладваюць да ран і нарываў, а таксама ўліваюць у задні праход пры запаленні прамой кішкі і задняга праходу.

**Мёд з алоэ.** Лісце, падрыхтаванае, як і раней, прапусціць праз мясарубку і на кожныя 100 г мязгі дадаць 200 г мёду, пасля яго падаграваць паволі, пакуль мёд не закіпіць. Паставіць да наступнага дня, ізноў падагрэць да кіпення, працадзіць праз густое сіта ў слоік і перахоўваць у халадзільніку. Прымаць раніцай нашча, а таксама на гадзіну да яды па лыжачцы ў якасці сродка, выклікаючага апетыт, супрацьязвавага і агульнаўзмацняючага. Рэкамендуецца дзецям, моладзі і пажылым людзям.

**Гліцэрынавы экстракт з алоэ.** Да 100 г лісця, падрыхтаванага, як і раней, і дробна нарэзанага ўліць 100 мл вады, зміксаваць, пасля чаго дадаць 150 мл гліцэрыну і крыху лімоннага соку. Ізноў зміксаваць і пакінуць на 24 гадзіны. Тады на густым сітцы адцядзіць раслінную мязгу, а вадкасць пераліць у бутэлькі і перахоўваць у халадзільніку.

Прымяняюць гліцэрынавы экстракт з алоэ як касметычны сродак, а таксама як вадкасць пасля галення.

Можна ў аптэках і крамах з зёлкамі купіць:

*Alax* (дражэ), вечарам прымаюць 1-3 штукі, запіваючы вадой; добры прачышчаючы сродак;

*Nalewkę alonową*, яе п'юць па 15-20 кропляў у кілішку вады ў залежнасці ад узросту як прачышчаючы сродак, а ў якасці сродка, стымулюючага выдзяленне страўнікавага соку, прымаць 5-10 кропляў у кілішку вады тры разы ў дзень на 30-60 мінут перад ядой;

*Biostyminę* — ампулы; падаюцца пры дапамозе ўколаў пераважна дзецям (асабліва пры астме). Нельга падаваць яго пры павышаным ціску крыві, хваробах нырак і цяжарнасці.

**ЭСКУЛАП**

## КАСЯК НА "Э,Ю,Я"

[crossword grid: 1, 7, 2, 8, 3, 9, 4, 10, 5, 11, 6, 12]

**Управа:** 1/ ежа з разбітых курыных, 2/ крайняе праяўленне парушэнняў парадку ў грамадскім жыцці, 3/ найвышэйшая гара на Зямлі, 4/ злучанасць людзей, 5/ павышаная пачуццёвасць, 6/ непаўнацэнны заменнік.

**Улева:** 7/ парная мужчынская палавая залоза, 8/ ранняя маладосць, 9/ падмосткі канцэртных выступленняў, 10/ буйное злучэнне ваенных караблёў або самалётаў, 11/ асліннік - слова гэтае мае чатыры галосныя: два "а" і два "э", 12/ найважнейшы ў тэлевізары.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на касяк з 2 н-ра. Управа:** нахіл, летапіс, навáтар, ліванец, насарог, лодар. **Улева:** напеў, ліманад, нікацін, лакатар, непакой, ложак.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Барбара Гура** з Любліна і **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прысніўся мне такі сон. Я іду па сваёй вёсцы. Бачу: каля плота ляжыць мая старая кошка, спіць. Яна раней жыла ў мяне ў Беластоку, забралі яе на вёску, але недзе прапала. Кошка звіла сабе штосьці накшталт птушынага гнязда, пад нейкім кволым кусцікам, а ад марознага ветру засланілася анучкамі, ссохлымі лісткамі, паперынамі. Ляжыць, пакутуе на холадзе, але не ўстае і не звяртае на мяне ўвагі. Я памятаю ў сне, што яна ў рэчаіснасці, пэўна, ужо не жыве, але не здзіўляюся, што яе бачу, і мне вельмі прыкра і сумна. Пачынаю папраўляць "гняздо", завешваю яго ад ветру нейкімі газетамі. Заглядаю пад гняздо, а там ляжаць, акуратна зложаныя, лісты, дакументы, здымкі і выразкі з газет пра людзей, якія прапалі без весці і якіх шукае паліцыя. Гляджу, а сярод іх - здымак і вершы Ірэны Баравік і газетнае паведамленне аб тым, што яна выйшла з дому і не вярнулася.

**Міра**

Міра! Паэтка пра паэтку думае. Але сон сапраўды надта сімвалічны. І ўвесь наскрозь праўдзівы. Ну, ці ж не праўда, што Ірэна Баравік выйшла з дому і не вярнулася?! Асела ў Кракаве і на родную Беласточчыну толькі на канікулы прыязджае, найчасцей летам.

І сумная справа. У тваім "гняздзе" завяліся хітрыя, ліслівыя і прадажныя сябры, якія парушаць твой спакой. Не можаш на іх разлічваць. Сведчыць аб гэтым кошка, якой ты давярала і якая была табе блізкай. А яна, бачыш, пайшла сваёй дарогай, абы чым засланіўшыся ад марознага ветру. На цябе не звяртае ўвагі, хаця ты засланіла яе "гняздо" нейкімі газетамі.

**АСТРОН**

## ПАРАІЛА

У Зосі было вельмі несанлівае і плаксівае дзіця. Не ведала, што зрабіць, каб яго супакоіць. Адна суседка параіла зрабіць так: памыць пялюшкі ўвечары, калі будзе поўня, і занесці да выліць ваду ў чужую загарадзь, дзе спіць свіння. Дзіця тады будзе спакойнае.

Зося зрабіла так, як параіла ёй Райка.

Ваду панесла выліваць у загарадзь Вусікаў. Там заўсёды летам спала свіння. Аднак якраз той ноччу свінню загналі ў хлеў, а на яе месцы лёг спаць белы сабака. Зося падумала, што гэта свіння і хлюснула на звера вадой. Сабака як не заенчыць! Зося ледзь уцякла, каб ніхто не заўважыў. Нічога, аднак, не памаглі беднаму немаўляці гэтыя штукі.

**АЎРОРА**

### СТАРЭЙШЫНА КВЕТАК

Хрызантэму называюць старэйшынай кветак. Яна ўпамінаецца ў творы „Вясна і восень", які напісаны больш чым 2500 гадоў таму назад філосафам Канфуцыем. У Еўропу хрызантэма ўпершыню трапіла ў канцы XVII стагоддзя.

**(а-ця)**

Ніва

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцыляріі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 28 lutego 1993 r. Wpłaty przyjmują wszystkie urzędy pocztowe.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w II kwartale 1993 r. wraz z wysyłką wynosi 4500 zł., a kwartalnie - 58500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МА КАТ РАЗМЫ

**ШЧЫРЫ БЕЛАРУС**

Манкуртам быў нявед чаму -
Ішоў крыжовым курсам;
Павесіў лапаць на сцяну -
Стаў шчырым беларусам.

**ТАНЦОР**

Выйшаў на круг
Абух.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## АБ РАЙСКІМ ГРАХУ

У гурце з нейкае прычыны,
Кульнуўшы чарку за сталом,
Вялі дыскусію мужчыны:
"Ці трэба нам публічны дом?"
Быў дзелавы падход да справы
І думку песцілі адну,
Што быццам дом той у дзяржаве
Папоўніць бедную казну.
- Агіда й сорам пры народзе
Карысць блудняцкім шляхам мець.
- А лепш у брудзе і смуродзе
На шумнай фабрыцы гібець?
- Дачку або сястру для дома
Ахвяраваў бы ты наўздзіў?
- І дурню ясна: не, вядома...
А да чужых і я б схадзіў.
- Калі падходзяць матэр'яльна
З разлікам простым да уцех,
То траціць грошы амаральна
На першародны райскі грэх.
- Рабіць штосьць трэба ў гэтай сферы,
Бо ўжо на зайздрасць нам і жудзь
Кабылам гэтым мільянеры
За ўцехі тысячы кладуць.
Сказала, ёрзнуўны на лаве,
Немаладая галава:
"Усё быць мецца ў дзяржаве,
І дом публічны, і царква.
І хоць нястрымана гуляе
Каварны сіфіліс і СНІД,
Ніпто так люд не спакушае,
Як усялякі дэфіцыт".

**ІВАН ВАРАЎКА**

## СЕНТЭНЦЫІ

Туга з'яўляецца шрамам сэрца.

* * *

Крык сімулюе адвагу баязліўца.

* * *

Толькі крывёй сляпога падкормліваюцца бяскарна.

**БАРЫС РУСКО**

# НІЎКА




## СМЕХАТЭРАПІЯ

**Крымінал**

Без адзінага грама жалеза выпускаюцца жалезабетонныя пліты ў горадзе Паленава. Новай тэхналогіяй паленаўскіх умельцаў зацікавіліся следчыя органы.

**У засеках Радзімы**

Добры ўраджай збожжа сабралі ў мінулым годзе вучні сярэдняй школы н-р 98 на дарозе, якая вядзе да элеватара.

**Справы акцёрскія**

Акцёр Папетрыкаў, які іграў Шэрага Ваўка, на дзесятым дублі так увайшоў у ролю, што сапраўды з'еў актрысу Ведрава, якая выконвала ролю Чырвонай Шапачкі, хоць і казаў у перапынках паміж здымкамі, што Ведрава не ў яго гусце.

**Сямейнае жыццё**

Сёння мірна і без скандалу правядуць дзень муж і жонка Бушуевы. Справа ў тым, што працуюць яны ў розныя змены.

**Водгукі ГКЧП**

Прэзідэнт ЗША даў тлумачэнні спецыяльнай сенацкай камісіі з нагоды таго, дзе ён быў у час жнівеньскага путчу 1991 года.

**Для вас, жанчыны**

Парада касметолага: слабы 30-працэнтны раствор азотнай кіслаты зменіць ваш выгляд да непазнавальнасці.

**З партыйнага жыцця**

Нацыяналізацыя партыйнай маёмасці завершана ў Шурум-Буруйскай вобласці. Маёмасць перайшла да партапаратчыкаў карэннай нацыянальнасці.

**З літаратуры**

Адзін з лепшых раманаў Міхаіла Шолахава перакладзены на іспанскую мову. Раман выйшаў пад назвай "Ціхі дон Хуан".

**Макараў вінаваты**

Узброенае супраціўленне міліцыі аказаў небяспечны злачынца Х. На следстве ён прызнаўся, што страляў з пісталета Макарава. Канструктар Макараў знойдзены, арыштаваны і асуджаны.

/"Звязда"/

## З ДЗЁННІКАЎ ДОНЖУАНА І ДЖЭНТЛЬМЕНА

* Мода - калі ўсе носяць тое, чаго ніхто не можа дастаць.
* Пацалунак - яшчэ не каханне. Каханне - яшчэ не вяселле. Вяселле - яшчэ не шчасце
* Шчасце мець прыгожую жонку, а гора - мець такое шчасце.
* У маладосці кахаюць мацней, а ў старасці больш надзейна.
* Донжуан кахае так, быццам памрэ заўтра, а джэнтльмен - быццам не памрэ ніколі
* Калі джэнтльмен назваў даму дарагой, значыць, яму патрэбная больш таннаядама
* Сапраўдны джэнтльмен заўсёды пастукае - нават перад тым, як адчыніць шафу

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

- Дзе ты згубіў адзін бот? - пытае жонка п'янага Марка.
- Я яго не згубіў. Я яго толькі... ужыў.
- Для чаго?
- А прычапіўся да мяне адзін п'яніца, біцца са мною хацеў. То і дастаў па лысіне маім ботам.

* * *

- Што ты лічыш?
- Колькі ў мяне засталося грошай з палучкі, калі ўсё прапіў...
- Хопіць за гэта, што засталося, выпіць і з'есці?
- На хлеб не хопіць, але на добры шнурок, каб павесіцца, можа.

* * *

- Кахаў ты каго перада мною? - пытае Гандзя каханага.
- Не, - шчыра прызнаецца Косцік, - я толькі захапляўся некаторымі жанчынамі. У іх, апрача рахунку ў банку і вілы, нічога больш не было. А цябе пакахаў яшчэ за прыгажосць і шчырасць.

* * *

- Чаму ў цябе бот без халявы?
- Быў я на базары. Нехта крыкнуў: "Хавайце добра грошы, бо зладзеі ходзяць!" Я ўспомніў, што так жулікі даведваюцца, дзе людзі грошы трымаюць. Схітрыў я: не схапіў за пазуху, дзе кашалёк трымаў, а за халяву. Нават не заўважыў, як мне яе адрэзалі!

* * *

Антось марыў мець сына, а тут, як на злосць, удаваліся яму дачушкі. Калі нарадзілася чацвёртая, Антось напіўся і заплакаў:
- А чаму ж ты не хлопчык? Мне ж трэба сына!
Юлітка, калі ёй было ўжо два гады, казала:
- Я - татаў сын, а маміна дачушка!

**АЎРОРА**



# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Найдаражэйшае Сэрцайка! Кахаем адно другое ўжо два гады. Праўда, шлюбу мы не бралі, але ж з гэтым вялікага клопату не было б. Цяпер жа ўсе так. Ходзяць-ходзяць, пакуль дзяўчына не зацяжарыць, а калі станецца гэта, тады жэняцца. Вядома, якія ўмовы цяпер у моладзі — ні кала, ні двара. Жывуць найчасцей у бацькоў, бо сваёй кватэры спадзявацца не могуць.

На працягу гэтых двух гадоў бывала па-рознаму, але ніколі не сумнявалася я ў яго пачуццях. Так умеў выказваць сваё бязмежнае адданне і прывязанасць, што часамі мне было нават сорамна за сябе, а менавіта за тое, што любіла часамі пайсці ў кіно ці ў кавярню не з ім, а з сяброўкамі. Я яго кахала і лічыла, што людзі, якія кахаюцца, павінны мець да сябе цалкавіты давер. У кожным разе нават у галаву не прыйшла мне нейкая здрада, ці, як кажуць, „скок на бок".

А ён паводзіў сябе зусім інакш. Быў зайздросны, папракаў мяне кожным знаёмым хлопцам, а нават кампаніяй дзяўчат. Хадзіў за мною, сачыў нават. А я без патрэбы апраўдвалася.

Сталася так, што мой хлопец атрымаў кватэру. Ён быў у чарзе на яе больш 10-ці гадоў. Са сваіх заробкаў ён яе сёння і так купіць не мог. Але бацькі сабралі ўсе свае жыццёвыя апчаднасці, нешта яшчэ прадалі, далажыла старэйшая сястра, у якой муж працаваў шмат гадоў у Амерыцы, — і супольна купілі гэту кватэру, заплаціўшы 20 працэнтаў адразу. Цяпер мой хлопец будзе штомесяц сплачваць спулдзельні пакрысе рэшту.

У кожным разе ўзяў свае кніжкі, неабходныя рэчы і выбраўся ад бацькоў. Шчасце ўсміхнулася нам. Хаця кахаліся мы ў яго на падлозе (дзе ён пакуль што спаў), было цудоўна.

Хлопец мой пры кожнай сустрэчы гаварыў аб тым, што мы павінны мець дзіця. Я не разумела, чаго нам спяшацца, але ён, відаць, лічыў, што час уцякае хутка (яму ўжо 30 гадоў, а мне 22), і трэба падумаць пра сям'ю. Я яшчэ, праўду сказаўшы, не была да гэтага гатова і ўсё ўпіралася. А ён пры кожным спатканні ўжо гаварыў толькі пра дзіця. Мне нават гэта тэма крыху надакучыла.

Але ж гэтыя размовы і цешылі мяне: значыць, кахае! Інакш, бадай, не хацеў бы звязвацца са мной назаўсёды. Расказала яму, якая свіння мой адзін сябра: у яго ёсць дзве дзяўчыны, кожная з іх закахалася ў яго без памяці, не ўяўляе нават, што існуе другая, а ён сустракаецца з імі па графіку: у панядзелак — адна, у аўторак — другая, у сераду — першая зноў і г.д. Мой хлопец гэта выслухаў ды кажа так сімпатычна: „Бо дурненькія гэтыя дзяўчаты!" Даў намёк пры гэтым, што я да дурняў не належу. Я вырашыла, што пара і мне падумаць пра дзіця.

Мы заўсёды сустракаліся пасля працы. Часамі я затрымлівалася дапазна. Бацькі не былі задаволены, калі я вярталася пазней адзінаццаці. Але аднойчы мяне накіравалі на некалькі дзён на шкаленне. Так склалася, што мне ўдалося выехаць з Быдгашчы на дзень раней. Цэлы вольны дзень, які я магла выкарыстаць для сябе, — не ведалі ж пра гэта ні на працы, ні дома.

Цягнік прывалокся ўжо пасля поўначы. Я ўзяла таксі і падала адрас майго хлопца. Хутка мы былі на месцы. Была ўжо палова другой. Дзверы адчыніў ён няхутка — быў заспаны, раскудлачаны, у халаце. Ён нават не паспеў апамятацца, што здарылася. Я ўвайшла ў калідорчык і ўбачыла, што на гэты раз на падлозе ў супольнай з ім пасцелі спіць іншая дзяўчына. Я стаяла, не разумеючы, дзе я. У першы момант у маёй падсвядомасці мільганула нават думка, што я трапіла не ў тую кватэру.

На жаль, я не мусіла шчыпаць сябе, ці я не сплю. Ззаду стаяў „мой" анямеўшы хлопец, сведка ўсіх падзей. Што было рабіць? Выйшла я, трэснуўшы дзвярыма (з надзеяй, што тая дзяўчына нарэшце прачнецца) і пабегла на стаянку таксі. Слёзы душылі мяне. Сэрцайка! Што будзе са мною?

**Юля**

Юля! Хлопец твой мог прымяніць свядома гэты метад — супакоіць цябе, выклікаць у цябе пачуццё віны, — а сам рабіў, што хацеў. Думаю, што нават дзіця, на якое ты ўрэшце рашылася, не прымусіла б яго звязацца назаўсёды з адной. Наадварот, тады толькі ты б занялася выхаваннем дзіцяці (нават калі б вы ўзялі шлюб), а ён бы меў развязаныя рукі і прадаўжаў бы свае эратычныя гульні.

Несумненна, што ты яму падабалася найбольш (тое дзіця), але ж бачыш, не грэбаваў іншымі. Не вер яму больш і не ідзі да яго!

**СЭРЦАЙКА**